PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 11 (2183) Год XLIII Беласток 15 сакавіка 1998 г. Цана 1 зл.




*Пераможная каманда. Пра валейбалістаў з Гайнаўскага беларускага ліцэя чытайце на стар. 5* Фота Рамана ДАНІЛЮКА

## У нумары



# Аблічча беларускай культуры

**На карце акадэмічных беларусазнаўчых цэнтраў урэшце з'явіўся і Беласток. Разам з набыццём Універсітэтам у Беластоку самастойнасці ў кастрычніку мінулага года стварылася ў ім Кафедра беларускай культуры, пра што марылі, да чаго імкнуліся і нават змагаліся беларускія дзеячы.**

I хаця Кафедра беларускай культуры, якая знаходзіцца ў структуры Гуманітарнага аддзялення Універсітэта ў Беластоку, працуе ўжо некалькі месяцаў, афіцыйная інаўгурацыя яе дзейнасці адбылася 26 лютага г.г. А нагодай для ўрачыстасці паслужыла першая сустрэча з цыкла „Беларускія чацвяргі. Міжгаліновы канверсаторый”, у аснову якой лягла панельная дыскусія на тэму „Аблічча беларускай культуры”.

Падставай для дыскусіі над абліччамі беларускай культуры паслужылі выступленні вядомых даследчыкаў польска-беларускага памежжа. Прафесар Рох Суліма з Варшавы звярнуў увагу на працэс міфізацыі бачання беларускай культуры, прафесар Уладзімір Паўлючук задумваўся над разуменнем паняцця этнічнасці, а прафесар Андрэй Садоўскі ўказваў на патрэбу даследавання працэсаў дыферэнцыяцыі беларускай культуры Беласточчыны. Прафесар Альжбета Смулкова, загадчыца Кафедры беларускай культуры, сцвердзіла, што даследчыцкая работа над культурай будзе праводзіцца з бытавога боку, на сацыя-этна-лінгвістычных арэалах. Беларусь з'яўляецца тэрыторыяй сутыкнення двух асноўных культур — візантыйскай і лацінскай — і гэта паўплывала не толькі на канфесійную разрозненасць, але і на шмат якія адметнасці ў сферы самакіравання ці ўкладу жыцця. У сувязі з гэтым спадарыня прафесар паставіла пытанне: якую вартасць дзякуючы гэтаму можна выйграць — узбагачальную ці канфліктагенную? На яе погляд, глыбокай рэфлексіі патрабуе пытанне як быць малавядомым народам з асобнай культурай у працэсе уніфікацыі Еўропы і імкнення краін стаць членамі Еўрапейскай Супольнасці.

У ходзе жывой дыскусіі навуковыя супрацоўнікі польскіх і беларускіх універсітэцкіх цэнтраў ды запрошаныя госці шчыра віталі ўзнікненне новай беларусазнаўчай установы. У сітуацыі, калі беларуская культура амаль невядомая польскаму грамадству, калі бачыцца яна як нейкая дзіўная і незразумелая з'ява, калі вакол яе накапілася столькі міфаў і адмоўных стэрэатыпаў, у існаванні Кафедры беларускай культуры ніхто, мабыць, не сумняваецца, тым больш што нават выказванні некаторых удзельнікаў дыскусіі не былі вольнымі ад трафарэтных уяўленняў. Радасць з выпадку адкрыцця Кафедры выказаў таксама перакладчык беларускай літаратуры Ян Максімюк, які ў сваім выступленні падкрэсліў, што ягонае пакаленне, якое ў дарослае жыццё ўваходзіла ў васьмідзесятыя гады, марыла, імкнулася і нават змагалася за яе стварэнне.

Першы „беларускі чацвер” у беластоцкім універсітэце закончыўся канцэртам класічнай беларускай песні ў выкананні лірычнага барытона Віктара Скарабагатава, якому на піяніна акампанавала Галіна Каржанеўская. У выкананні менскіх артыстаў удзельнікі інаўгурацыі пачулі жамчужыны беларускага слоўна-музычнага мастацтва, пачынаючы са старадаўніх кантаў з „Полацкага сшытка” XVI-XVII стагоддзяў і канчаючы кампазіцыямі Яна Тарасевіча і Сымона Рак-Міхайлоўскага (апошні, вядомы ў нас перш за ўсё як адзін з кіраўнікоў Грамады і ТБШ ды пасол Сейма, з'яўляецца аўтарам музыкі папулярнай песні „Зорка Венера” на словы Максіма Багдановіча).

Чарговыя сустрэчы з цыкла „Беларускія чацвяргі. Міжгаліновы канверсаторый” з удзелам спецыялістаў па культуры, гісторыі, мовазнаўстве, этнаграфіі і сацыялогіі, а таксама творцаў і культурных дзеячаў будуць адбывацца кожны другі тыдзень.

**Віталь Луба**

*Пра Кафедру беларускай культуры чытайце на стар. 4.*

# Мы прачыталі

*Беларуская савецкая культура па сутнасці сваёй не мела нічога агульнага з нашай нацыянальнай культурай, заснаванай на глыбокіх традыцыях. Гэта быў яе сатанісцкі антыпод, які забіў і заглушыў беларушчыну, заняўшы ейнае пачэснае месца. Максім Танк пісаў:*

*На золаце — узняты Кастрычніка сцяг,*
*Прасторы бязмежныя ясныя,*
*Да сонца шырокі пралажаны шлях*
*Багатыя нівы калгасныя.*

*Аркадзь Куляшоў:*

*Камуністы — гэта слова, як са сталі,*
*Камуністы — гэта слова, як з агню.*
*Маркс і Энгельс нам імя такое далі*
*Сто гадоў таму назад упершыню.*

*Пімен Панчанка:*

*Я веру Леніну*
*З дзіцячае пары.*
*Няхай агнём бязлітасна гарыць*
*Свет бюракратаў, махляроў і гадаў.*

*Амаралізм у генах, у крыві — гэта антымастацтва. Вы можаце чытаць пра вясковыя сантыменты, або сцэны кахання, захапляцца лёгкасцю пяра, празрыстасцю апісання, але пры гэтым самым, атрымаць тыя самыя метастазы сатанізму. Бо оды Сталіну, чэкістам і партыі — гэта не маскіроўка, але недаразуменне гэтых пісьменнікаў. Гэта іх шчыры стан душы, нават у момант замілавання прыродай. Гэта ружовы туман.*

*Літаратура і мастацтва, н-р 2*

* * *

*Приказ министра обороны Республики Беларусь, н-р 93: Товарищи генералы, офицеры, прапорщики, старшины, сержанты и солдаты. Вооруженные Силы Республики Беларусь, ставшие достоинством Краснознаменного Белорусского округа, получили в наследство и сохраняют богатейшую героическую историю, традиции боевого братства, мужества и доблести.*

*Советская Белоруссия, н-р 49*

У „приказе" няма ніводнага слова, што беларускае войска мае абараняць суверэнітэт Рэспублікі Беларусь. „Товарищи" генералы і салдаты маюць „укреплять традиции советской армии".

* * *

*Беларускай апазіцыі трэба чытаць і вывучаць досвед барацьбы бальшавікоў і нямецкіх нацыянал-сацыялістаў з 30-х гадоў. Прычыны правалу БНФ былі ў палітычнай неадукаванасці і ў прадажнасці кіраўнічых органаў арганізацыі. Спектаклі на Соймах, дзе адны крычалі: „Я за Беларусь", другія „Я супраць Расеі", патрэбныя былі толькі рэжыму. Адныя апазіцыянеры існуюць, гуляючы цэлымі днямі ў камп'ютар, другія — катаючыся як сыр у масле. Рэжыму вельмі выгадна мець марыянетачную апазіцыю і любую карысную для беларускага нацыянальнага руху ініцыятыву ў скажоным выглядзе прыпісваць ёй. Кагебісты ўмеюць працаваць. Таму ніякага станоўчага эфекту няма ні з мітынгаў, ні з пікетаў, ні з чаго іншага.*

*Наша ніва, н-р 3*

* * *

*W jednym z gdańskich szpitali prosektorium handluje trumnami. Sanitariusze nocą w białych fartuchach jeżdżą karetkami, w dzień zaś odziani w kolor żałobny, w roli personelu pobliskiej firmy pogrzebowej, spuszczają do grobu zwłoki niedawnych pacjentów.*

*Polityka, nr 8*

Нармальны бізнес.

* * *

*Bezdzietny kawaler, lat 33 pozna pannę lub rozwódkę...*

*Kurier Poranny, nr 42*

* * *

*Беларускі балет зноў адправіўся ў Кітай.*

*Звязда, н-р 22*

Шкада, што не ў Беласток.

* * *

*Уважаемый Президент Республики Беларусь!*

*В истекающем году, несмотря на значительные трудности, нам удалось создать весомые предпосылки для дальнейшего прогресса,* — сказаў прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг падчас пасяджэння Савета Міністраў.

*Народная газета, н-р 25*

Такім чынам грамадзяне Беларусі даведаліся, што ў гэтым годзе прагрэс таксама будзе.

* * *

*W pierwszą rocznicę bytności na antenie Telewizja Białystok miała od razu dwie sprawy sądowe.*

*Kurier Poranny, nr 42*

З гэтага відаць, што ёсць яшчэ пару мазахістаў у Беластоку, якія глядзяць мясцовае тэлебачанне.

* * *

*Zarząd Miasta Białegostoku zaaprobował plany budowy na osiedlu Wyżyny kościoła i plebanii o powierzchni 2 tys. metrów kwadratowych, zaś przedszkola i placówek usługowych o powierzchni 1 tys. m. kw.*

*Gazeta w Białymstoku, nr 43*

Кожная ўлада дбае пра тое, каб яе ўстановы выглядалі шыкарна. А прытым набліжаюцца камунальныя выбары і кожны дваранін ведае, што рабіць у такой сітуацыі.

* * *

*W jakich kategoriach należy traktować młodych ludzi sikających w samo południe na środku ulicy? Czy jest to przykład europeizacji?*

*Polityka, nr 8*

Хутчэй за ўсё амерыканізацыі. Тэлебачанне паказвае, што сыны Вялікага Брата робяць гэта даволі часта.

# З мінулага тыдня

**У Варшаве** завяршыліся перагаворы па ўрэгуляванні сітуацыі, што склалася на польска-беларускай граніцы пасля ўвядзення польскім бокам новых дарожных збораў за аўтаперавозкі. Варшава пагадзілася на гэтую сустрэчу толькі пасля мер у адказ, калі беларускі бок устанавіў плату 150 долараў. У выніку перагавораў, якія з беларускага боку вёў першы намеснік міністра транспарту і камунікацыі Васіль Чалоўскі, дасягнута дамоўленасць давесці тарыфы да міжнародных стандартаў, а дзейнічаць яны пачнуць з 1 красавіка г.г.

**Мар'юш Машкевіч** атрымаў падтрымку сеймавай камісіі па замежных справах на пасаду пасла ў Рэспубліцы Беларусь. Былы консул у Гродне сказаў, што чакае яго асабліва складаная місія і заявіў, што будзе старацца падтрымоўваць кантакты не толькі з прадстаўнікамі афіцыйных улад, але і з апазіцыяй. Звярнуў ён увагу, што ролю польскага дыпламатычнага прадстаўніцтва з'яўляецца ўказванне на вялікае значэнне плюралізму ў палітычных сістэмах.

**Міністр Браніслаў Герэмэк** паведаміў, што прыняў рашэнне аб паніжэнні цаны ўязных віз у Польшчу і ўвядзенні доўгатэрміновых віз. У Міністэрстве замежных спраў устаноўлена, да якога ўзроўню будзе зніжана цана польскай візы і будзе яна набліжана да той, якую прапанавалі прыгранічныя купцы. Цяпер вядуцца работы па спрашчэнні працэдуры атрымання візы.

**Кожная ваяводская ўправа** ўжо падрыхтаваная рэгістраваць штодзённа 150 запрашэнняў для іншаземцаў, хаця прыходзіць з гэтай справай каля 30 наведвальнікаў у дзень, — заявіў віцэ-прэм'ер, міністр унутраных спраў і адміністрацыі **Януш Тамашэўскі**. Паводле яго, Міністэрства замежных спраў павінна паніжаць цану ўязной візы, а Міністэрства фінансаў — загадаць вяртаць турыстам на мяжы падатак VAT ад купленых у Польшчы тавараў.

**Беластоцкія купцы** накіравалі ліст тром міністрам — унутраных і замежных спраў ды фінансаў, у якім выказваюць занепакоенасць тым, што прадстаўнікі ўрада не выпаўняюць дадзеных абяцанняў наконт змякчэння рэжыму перасячэння польска-беларускай мяжы. Купцы падкрэсліваюць, што з надзеяй прынялі заяву аб паніжэнні цаны ўязной візы, якая да гэтай пары застаецца толькі пустым абяцаннем. Звяртаюць яны ўвагу, што бяздзейнасць у гэтай справе можа давесці да паглыблення адмоўных працэсаў, у тым ліку да ўскладнення міжнародных адносін, банкруцтва фірмаў, застою ў гаспадарчым развіцці Беластока і рэгіёна.

**Рашэнне** аб скарачэнні датацыі на рамонт манастырскіх будынкаў у Супраслі было прынята па прапанове беластоцкага віцэ-ваяводы ад 21 лістапада 1997 года, падтрыманай беластоцкімі пасламі ад АВС, — напісаў дырэктар Сакратарыята Старшыні Рады Міністраў **Габрыэль Бэплай** у адказ на адкрыты ліст лідэраў беларускіх і праваслаўных арганізацый да прэм'ер-міністра ад студзеня г.г. 600 тысяч зл. датацыі прызначыў яшчэ прэм'ер-міністр **Уладзімеж Цімашэвіч**, а яго наследнік **Ежы Бузэк** зменшыў яе напалову.

**Glos Bialowieży** — штомесячнік, які выдаецца Белавежскім асяродкам культуры, вядзе кампанію за стварэнне Белавежскага павета. У 1920-1925 гадах Белавежа была сядзібай старастава, а Гайнаўка мела тады статус пасёлка і ўваходзіла ў яго састаў.

# Весткі з Беларусі

**Вязні сумлення**

За маляванне на мурах у горадзе Стоўбцы лозунгаў супраць прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі 19-гадовага Аляксея Шыдлоўскага суд прыгаварыў да паўтара года турэмнага зняволення, а 16-гадовага Вадзіма Лабковіча пакараў двума гадамі ўмоўнай турмы. Пракурор абвінавацію іх „у змове, злосным хуліганстве, нішчэнні помнікаў і аганьбаванні дзяржаўнага сцяга". Нанесеныя „хуліганамі" страты велічынёю ў 150 долараў бацькі ўжо пагасілі. Матывуючы вырак суд не згадаў пра палітычныя матывы дзеяння маладафронтаўцаў, засяроджваючыся толькі на фактах хуліганства. На судовай зале абвінавачаных трымалі ў металічнай клетцы, якую вартавалі восем АМАПаўцаў з сабакам. Міжнародная арганізацыя Amnesty International прызнала Лабковіча і Шыдлоўскага вязнямі сумлення.

**Крытычная сітуацыя**

Доўг Беларусі за ўжыванне энерганосьбітаў з пачатку гэтага года паявіліўся на 100 мільёнаў долараў. Намеснік прэм'ер-міністра Валеры Кокараў адзначыў, што ў рэспубліцы склалася крытычная сітуацыя з разлікамі суб'ектаў гаспадарання за энерганосьбіты. Ён заявіў, што несвоечасовы разлік прадпрыемстваў Міністэрства прамысловасці за энерганосьбіты ставіць пад пагрозу энергетычную бяспеку краіны. Не пазней чым у сакавіку адбудзецца прэзідыум Савета Міністраў, на якім будзе выклікана ад пасады шэраг міністраў і група кіраўнікоў прадпрыемстваў, якія не плацяць за энергарэсурсы.

**Дар жлобінскаму музею**

Дзевяць праваслаўных ікон, канфіскаваных на Гродзенскай мытні, перададзены Жлобінскаму дзяржаўнаму краязнаўчаму музею. Гэта работы рускіх мастакоў-іканапісцаў XIX стагоддзя, якія жылі на Валагодчыне. Шэдэўры сталі самымі рэдкімі і каштоўнымі экспанатамі музея ў раздзеле „Жывапіс".

**Віцебскія праведнікі**

Яшчэ сямі грамадзянам Беларусі ўручаны дыпломы „Праведнік народаў свету". Цырымонія ўзнагароджвання суайчыннікаў, якія ўратавалі ў гады вайны яўрэяў ад фашысцкага генацыду, адбылася ў Віцебскім тэатры. Медалі і дыпломы праведнікаў уручыў Гершон Зоар — часовы павераны ў справах Ізраіля ў Рэспубліцы Беларусь. Дыпламат цікавіўся таксама развіццём супрацоўніцтва Ізраіля з Віцебшчынай у сельскай гаспадарцы, медыцыне, культуры і адукацыі.

**Коласавы інскрыпты**

Унікальная выстава пад назвай „Інскрыпты Якуба Коласа" дэманструецца ўпершыню ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі пісьменніка. Тут і кнігі, і фотаздымкі, ды мастацкія творы з дароўнымі надпісамі для сваякоў, сяброў, блізкіх з фондаў музеяў і асабістых архіваў, перапіска Якуба Коласа з дарэвалюцыйных часоў, у прыватнасці з настаўніцай віленскай школы Аляксандрай Рамановіч-Зотавай, якая доўжылася з 1907 па 1917 гады.

**Выстава аб Каганцу**

Дзяржаўны музей гісторыі і беларускай літаратуры адкрыў выставу, прысвечаную пісьменніку, фалькларысту, мовазнаўцу і мастаку Карусю Каганцу. Сёлета споўнілася 130 гадоў з дня яго нараджэння. На пачатку стагоддзя творы паэта асобна не выдаваліся. Яны друкаваліся ў газеце „Наша ніва". Вядомая п'еса Каруся Каганца „Модны шляхцюк" з поспехам ставілася групай Ігната Буйніцкага. У экспазіцыю ўключаны матэрыялы з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі і Дзяржаўнага музея-архіва літаратуры і мастацтва.

**Інтэграцыйныя дзеянні**

Аб інтэграцыі паміж Беларуссю і Расеяй гаварылі мянчане на лютаўскім дні інфармавання. Кіраўнікі гарадской адміністрацыі і паасобных раёнаў наведалі звыш 80 прадпрыемстваў і арганізацый. На сустрэчах у працоўных калектывах размова ішла не толькі пра сёлетні бюджэт Саюза Беларусі і Расеі, але і пра ўклад кожнага канкрэтнага прадпрыемства ў развіццё інтэграцыйных сувязей. Абмяркоўваліся таксама і надзённыя праблемы працоўных калектываў.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- Беларускія сны пра свабоду.
- Тайны белавежскіх птушак.
- Край парадоксаў дзядзькі Ліяша.

# Самаўрад у Нараўцы

**Хуткімі тэмпамі ідзе падрыхтоўка да адміністрацыйнай рэформы краіны. Прадбачваецца стварэнне вялікіх ваяводстваў і паветаў. Набліжаюцца таксама выбары і ў гмінныя самаўрады. Пра працу ў Гміннай радзе ў Нараўцы размаўляю са старшынёю Рады Яўгенам ВАЛКАВЫЦКІМ і радным Яраславам ХАРКЕВІЧАМ.**

*— Пастанова аб самаўрадах дае старшыні Гміннай рады вялікую ўладу. Ці ў Нараўцы Вы карыстаецеся гэтымі прывілеямі?*



**Яўген Валкавыцкі:** — У нас найважнейшая асоба — гэта войт. Ён найлепш ведае пра ўсе праблемы, фінансы гміны і за гэта ж адказвае. Я, як старшыня, вяду пасяджэнні Рады, апрацоўваю яе план працы і прадстаўляю інтарэсы гміны звонку. Канчаткова ўсе справы вырашаюць у галасаванні радныя. Пасля заўваг войта заўсёды ідуць дыскусіі. Хаця ў Радзе 18 радных, у камісіях працуюць і асобы запрошаныя, якія маюць уплыў на кшталт пастаноў. Часта размаўляем з жыхарамі, якіх тычацца рашэнні.

*— У пачатку года ўхваляецца бюджэт. Хто ў Нараўцы займаўся падрыхтоўкай бюджэту на 1998 год?*

**Я. В.:** — У нашай гміне прапановы ў справе бюджэту паяўляліся на працягу цэлага года. На падставе выказванняў нашых жыхароў і ўласных назіранняў Управа гміны падрыхтавала праект бюджэту. Пасля абмяркоўваўся ён у камісіях — сацыяльнай, фінансавай, сельскагаспадарчай і рэвізійнай. Зараз у кожнай вёсцы адбываюцца сустрэчы прадстаўнікоў Рады і Управы з жыхарамі. У час такіх сустрэч разглядаюцца канкрэтныя прапановы і актуальныя праблемы, падводзяцца вынікі нашай працы за апошні год. У час бюджэтнай сесіі радныя галасуюць у справе прапаноў розных камісій і жыхароў, а толькі пасля прымаюць бюджэт.

*— Ці ў Радзе можна заўважыць нейкія падзелы наконт размеркавання даходаў?*



**Яраслаў Харкевіч:** — Канкрэтнага падзелу няма, але ў час дыскусій выяўляюцца розніцы паміж падаткаплацельшчыкамі (рамеснікі, купцы, гаспадары) і тымі, якія жывуць з падаткаў (настаўнікі, ураднікі). У нашай гміне слабыя землі і тут падаткі малыя. Асноўныя даходы ідуць ад прадпрыемстваў. Заўсёды многа дыскусій выклікаюць інвестыцыйныя вырашэнні. Грошы на дарогі, водаправоды і тэлефоны патрэбныя для ўсіх вёсак. Трэба заўсёды вырашаць, ад якіх вёсак пачынаць пабудову і колькі сродкаў даваць, каб інвестыцыі як найхутчэй закончыліся. Маем сваю газету „Над Нараўкай" і я прапанаваў зрабіць беларускамоўную старонку, але гэта не прайшло.

*— Ці многа сродкаў можна было выдаткоўваць апошнім часам на інвестыцыі?*

**Я. В.:** — У 1997 годзе больш чым палову бюджэту (каля 3 мільёнаў злотых) мы адвялі на інвестыцыі. Першага верасня здалі ў карыстанне новую школу, а зараз ідзе яшчэ пабудова гімнастычнай залы. У Нараўцы па вуліцах Міцкевіча і Аградовай клалі каналізацыю, а на вуліцы Новай асфальт і тратуары. Рамантавалі 6 кіламетраў асфальтавых і гравійных дарог. Вядзецца пабудова ачышчальні сцёкаў і каналізацыі ў Старым Ляўкове. У многіх вёсках клалі водаправоды.

**Я. Х.:** — У маёй акрузе палажылі асфальт з Ляўкова ў Лешукі, зрабілі водаправоды ў Лешуках, Міхнаўцы і меншых пасёлках. Хочам класці асфальт у Міхнаўку. Шкада, што ліквідавалі школу ў Лешуках, але было ўжо мала дзетак.

*— Маючы ўжо вопыт у працы на карысць гмінных самаўрадаў, як ставіцеся да прапанаванай адміністрацыйнай рэформы краіны?*

**Я. Х.:** — Паветы — гэта яшчэ кошка ў мяшку, бо нічога канкрэтнага не ведаем, а толькі гавораць, што будзе лепш. Усе станоўча ацэньваюць самаўрадавую рэформу і калі б грошы з гміны забралі ў павет, гэта толькі ўскладніла б працу. Зараз мы ў гміне дзейнічаем згодна з прынцыпам „бярэм свае справы ў свае рукі". Маем кантакт з выбаршчыкамі і з прадпрыемствамі. Лепш чым у прапанаваных паветах ведаем якому прадпрыемству трэба дапамагчы. Выбаршчыкі актывізуюць нас да працы.

**Я. В.:** — Стварэнне паветаў можа быць станоўчым крокам толькі тады, калі не забяруць яны фінансаў з гмінаў. Напэўна лепш будзе вырашаць многія справы ў Гайнаўцы чым ездзіць, як цяпер, у Беласток. Добра было б, каб і справы асветы перайшлі ў Гайнаўку.

*— Апошнім часам запаведнік павялічыўся ў два разы. Што думаюць жыхары гміны Нараўка пра прапанаванае пашырэнне абшару запаведніка на ўсю Белавежскую пушчу?*

**Я. Х.:** — Нашы людзі адмоўна ставяцца да павелічэння запаведніка. Людзі, якія працуюць у лесе, баяцца страціць працу. Іншыя задумваюцца, чым будуць абаграваць хаты. Памятаем, што нам абяцалі грошы на экалагічныя інвестыцыі, калі раней пашыралі запаведнік. Аднак амаль нічога з гэтага не атрымалі.

**Я. В.:** — Міністэрства аховы асяроддзя не выканала ніводнай пастановы наконт фінансавай дапамогі. Калі рэалізуюць усю дамоўленасць, можна будзе гаварыць пра наступныя крокі. Калі паводле ваяводскіх планаў не прадбачваецца цягнуць у Нараўку газ, дык аб якой ахове пушчы тут можа ісці гутарка.

**— Дзякую за размову.**

**Гутарыў Аляксей Мароз**

# Сцяг сапраўдных палякаў

Беластоцкі аддзел Згуртавання палякаў пацярпелых ад III Рэйха мае цяпер свой сцяг, пад якім іхнія прадстаўнікі будуць выступаць на ўрачыстасцях. Пасвяцілі яго ў прысутнасці гасцей ваяводскага і краёвага ранга, у касцёле св. Станіслава на Выгодзе, з урачыстым выступленнем (нават у час святога прычасця) аркестра Вайсковай часці н-р 18 і хору былых АКаўцаў з клуба „Каліна", што дзейнічае на Дзесяцінах. Паколькі, як заўсёды сцвярджае сп. Мар'ян Салярчык, віцэ-старшыня, у беластоцкім аддзеле больш за 75% членаў гэта праваслаўныя — у пасвячэнні сцяга прысутнічаў праваслаўны капелан. Сярод гасцей былі таксама „простыя" члены, такія як пані Анеля з Лап, што пабывала на прымусовых работах у Кёнігсбергу аж 5 гадоў. Вельмі цяжка ёй хадзіць, але прыехала. Вельмі здзівіла яе, што так мала народу ў касцёле, калі не лічыць прэзідэнта Беластока, былых міністраў, уладаў Згуртавання і харыстаў (у хор Патрыятычнай песні думае запісацца першы член Згуртавання).

Вельмі ўзрушала выказванне каталіцкага святара, які гаварыў пра чалавечую моц духа і моц Крыжа, які дапамог сцярпець людзям часы вайны, няволі і здзекаў. Немагчыма было б, калі б не загучала сучасная нотка: прыраўнаны быў Гітлер, што *зламаў крыж* да *тых, што хочуць скінуць крыж са сцэн* напрыклад у Сейме РП. Усё стрымаць могуць толькі **prawdziwi Polacy**, якія былі, ёсць і будуць пад спецыяльнай апекай яшчэ і Дзевы Марыі, і запаветнага лозунга *Bóg, Honor i Ojczyzna*. Паўтарыў гэтыя словы служыцель духа бадай 26 разоў, і я, простая беларуска, адчувала сябе так, быццам не можа ў мяне быць ні Бога, ні Гонару, ні Айчыны. Але мае гу гаварыць толькі пра свае пачуцці.

Паколькі Згуртаванне не змагло аформіць справу кампенсацыі ад Нямеччыны жыхарам спацыфікаваных гітлераўцамі беларускіх прыпушчанскіх вёсак, запытала я ў былога міністра „ад ветэранаў", што маюць рабіць. Раней справа была таксама хіба *nie do załatwienia*, паколькі Адам Дабраньскі, бы́ўшы міністрам, нават словам пра іх не заікнуўся, пералічваючы пацярпелых. Немцы грошы далі, як дамовіліся, каб хоць такім чынам адмыць свае рукі, сплямленыя крывёй папяраднікаў. Але гэтых грошай ужо няма. Цяпер з польскага бюджэту выплачваецца больш-менш па 100 злотых да пенсіяў пацярпелых (прымусовых работнікаў, вязняў лагераў працы і іншых). Каб заплаціць і тым, якім абяцалі раней, трэба было б тыя грошы ўзяць таксама з бюджэту РП, а гэта вырашыць мусіць Сейм. Раней не захацеў, нягледзячы на намаганні Згуртавання. „**Мы** (PSL) цяпер не пры ўладзе! А, здаецца, *іх* не прылічыш да дзяцей народжаных у ссылцы?" — задумаўся Адам Дабраньскі.

Згуртаванне паведаміла сваіх членаў са спацыфікаваных вёсак, каб пакуль што не плацілі складчын. Можа, удасца справу неяк палагодзіць? Спадар Мар'ян Салярчык падаўся быў ужо да пасла Яна Сычэўскага, каб той нейкім чынам памог землякам. Бо ж у Згуртаванні, сярод *праўдзівых Палякуф*, аж 75 працэнтаў праваслаўных! А тых са спаленых беларускіх вёсак — паўтары тысячы. Якраз столькі, колькі галасоў было аддадзеных на Я. Сычэўскага, заадно і на СЛД. Можа, гэты Саюз дапаможа ў гэтай справе. Ды і яны „цяпер не пры ўладзе", як і ПСЛ былога міністра Адама Дабраньскага, але **нашым** павінна больш на гэтым залежаць?

**Міра Лукша**

# Экалагічныя інвестыцыі

У снежні мінулага года завяршылася пабудова чаромхаўскай ачышчальні сцёкаў. Гэта адна з найбольшых гмінных інвестыцый. Вялася яна хуткімі тэмпамі. Пабудова асноўнага канала пачалася 7 сакавіка 1997 г., а ачышчальні — 1 чэрвеня, значыцца, кончылася ў няпоўны год! Стратэгічным выканаўцам было прадпрыемства „Hydrocentrum" з Варшавы (падрадчыкам фірма „Dalba", Беласток). Гэта салідная ўстанова і за добрасумленную працу належацца кіраўніцтву і ўсяму рабочаму калектыву словы пашаны. Трэба адзначыць, што немалая ў тым заслуга чаромхаўскага самаўрада, а перад усім старшыні ўправы, які патрапіў арганізаваць жыхароў пасёлка, каб уплацілі суму 1 мільёна 30 тысяч злотых (10% інвестыцыйнай вартасці) неабходных для атрымання дзяржаўнай датацыі.

Кошт інвестыцыі складае суму 22 мільярды старых злотых. Пабудова раскладзена на два туры. У час першага было зроблена 2,83 км асноўнага канала і 1444 м адводных каналікаў ад 77 гаспадарскіх збудаванняў, прылучаны вуліцы Аградовая, Свярковая, Бжазовая, частка вуліцы Дзібуа і 1 Мая.

У другім туры будуць прылучаны вуліцы Дзібуа і 1 Мая (прадаўжэнне), жылы корпус Мытнага аддзялення, Гмінны асяродак культуры, працяг вуліцы Аградовай і вуліца Кляновая. Зараз у пасёлку знаходзяцца чатыры ачышчальні сцёкаў: дзве ў прадпрыемстве чыгуначнага рухомага саставу, адна ў шпалапрапітачным цэху і адна гмінная.

Пераклаўшы ўсё на лічбы, азначала б гэта: 7,3 км агульнай даўжыні санітарнай каналізацыі, 90 штук прыканалікаў, што дае 1875 метраў даўжыні. На тэрыторыі гміны знаходзяцца 8 сметнікаў (7 вясковых і 1 гмінны), якія займаюць 4,10 гектараў плошчы.

У гэтым годзе плануецца разбудова адміністрацыйнага будынка гміны і пажарнай каманды. 12 лютага г.г. адбыўся аўкцыён на выканаўцу, у якім удзельнічалі дзве фірмы. На аўкцыёне перамагло Бельскае будаўнічае прадпрыемства. Інвестыцыі гэтыя размяркоўваюцца на два гады. З увагі на спрыяльнае надвор'е ўжо ў сакавіку можна спадзявацца пачатку работы.

**Уладзімір Сідарук**

# Запрашэнне

Беларускае аб'яднанне студэнтаў сардэчна запрашае на вечарыну прысвечаную 80-й гадавіне незалежнасці Беларусі.

У праграме прадбачваем:

— канцэрт Віктара Шалкевіча,
— даклад Алега Латышонка.

Мерапрыемства адбудзецца 25 сакавіка 1998 года а гадз. 17⁰⁰ у будынку Універсітэта ў Беластоку, вул. Лінярская 4.

# Будзе цёпла

Зімовыя месяцы не ўвялі на Беласточчыну настрою адпачынку і бестурботнага чакання Ражджаства Хрыстовага. Усіх затрывожыла вестка пра павышэнне са студзеня 1998 года цэн на энергію, ацяпленне, тэлефоны, бензін, папяросы, алкаголь. Кожны разумее, што гэта толькі пачатак даўжэйшай „цэнавай тэрапіі”. У бок урада пасыпаліся папрокі, а віцэ-прэм'ер Бальцаровіч ізноў на вуснах грамадства. І нат святы мы праводзілі больш спакойна і стрымана, а перакульваючы чарку большасць людзей трывожна думала пра будучыню.

Неўзабаве для часткі жыхароў Беласточчыны штомесячнай праблемай будуць пакупкі ежы на гэтак званую „крэску” ў знаёмага прадаўца. Фрустрацыя і расчараванне будуць узрастаць, што відочнае ва ўсіх апытаннях грамадскіх настрояў. Не найлепей прадказвае гэта ўраду і кіруючай кааліцыі. Амаль ніхто не хоча паверыць у статыстычныя даныя, быццам сярэдняя зарплата ў маштабе краіны гэта прыблізна 12 мільёнаў старых злотых. У нашых вёсках і гарадах людзі толькі ўздыхаюць і, круцячы галавой, кажуць: „Дай Бог і мне такую сярэднюю”. Ва ўмовах беластоцкіх будняў да г.зв. „сярэдняга класа” залічваюцца ўжо тыя, якім штомесячна трапляе ў кашалёк каля 15 мільёнаў старых злотых. У цэнтральнай Польшчы „сярэднякі” пачынаюць цаніцца з 30 мільёнаў на асобу ў месяц. Мой сябра настаўнік, калі чуе такія сумы, гаворыць адкрыта: „Злосць з'ядае чалавека ад зайздрасці, што аж не сплю па начах”.

**Нашу сітуацыю перад і пасля 1989 года можна назваць „4хБ” — Беластоцка-Беларуская-Бязвыхадная-Бедная, калі глядзім на эканамічную дыспрапорцыю паміж Польшчай на ўсход і захад ад Віслы.** І толькі да пачварных размераў раздзімаецца Беласток, абавязкова з вежамі касцёлаў і купаламі цэркваў на кожным рагу. Такая аграмадная жаба. І апрача яе некалькі апалонікаў (па-польску: kijanki) — правінцыйных гарадкоў, якім, б'ючыся за сваё існаванне, не хапае ўжо сіл, каб змяніць сваю вонкавую і ўнутраную адметнасць.

Аказваецца аднак, што на беднасці можна вельмі добра спекуляваць, а Беласточчына мае шчасце, а мо лепш сказаць няшчасце, да такіх круцялёў. Згодна з усімі тэарэтычнымі распрацоўкамі, бедны электарат шукае пераважна апірышча ў партыях левага напрамку, якія абяцаюць больш справядлівасці, аднак найчасцей толькі цераз магчымасць паціснуць руку палітычным лідэрам ІІІ Рэчы Паспалітай. І калі пасля выбараў 1993 года левыя ўзялі ўладу, а з Беласточчыны ўвайшло ў Сейм аж чатырох паслоў СЛД з будучым прэм'ерам, двух паслоў ад апазіцыйнай, але левай Уніі працы, а наканец апынуўся там прадстаўнік Сялянскай партыі, здавалася б, што маючы такіх прадстаўнікоў і гаспадароў, наш рэгіён пачне адбівацца ўгару. Некаторым ужо, мабыць, і прыснілася, што будзем хаця невялікім, але эканамічным тыграм. Хутка аднак прыйшло расчараванне.

Для Беласточчыны на працягу гэтага часу не была распрацавана рэгіянальная праграма рэструктурызацыі ваяводства, не ўзніклі спецыяльныя эканамічныя зоны, якіх стварэннем у іншых рэгіёнах дзяржавы да апошніх дзён улады займаўся прэм'ер В. Цімашэвіч, не павялічылася колькасць пераходных пунктаў паміж Беластоцкім ваяводствам і Рэспублікай Беларусь. Пералічваючы гэтыя хібы, бачу проста нявыкарыстаныя шанцы. Хопіць глянуць на павелічэнне колькасці пераходных пунктаў на іншых адрэзках польскай мяжы, дзякуючы якім дзяржава дае шанц людзям на малы прыгранічны гандаль. У нашым выпадку хопіць пагартаць цікавыя „Гарадоцкія навіны”, каб даведацца, як пераход у Баброўніках ажыўляе гаспадарчыя і экалагічныя інвестыцыі ў гміне. У нумары 10 (27) за 1997 год знаходзім наступную інфармацыю: „29 września odbylo się walne zebranie Stowarzyszenia Rozwoju Infrastruktury i Ochrony Środowiska w Gródku. Stowarzyszenie to skupiające dwadzieścia osób od ponad roku wspomaga budżet naszej gminy pieniędzmi ze sprzedaży cegiełek na przejściu granicznym w Bobrownikach. Ostatnio wśród kierowców TIR-ów zebrano 160 tysięcy złotych i podział tych pieniędzy był najważniejszym punktem zebrania”. Столькі сухіх лічбаў, але думаю, што кожны самаўрад хацеў бы мець такіх памочнікаў.

Таксама гміна Чаромха і яе жыхары маюць карысць ад перахода ў Полаўцах: пачынаючы ад працы ў мытных і пагранічных службах, а на спіртных гандлёвых мурашках заканчваючы. Доказы на карысці, якія плывуць з гэтага можна пералічваць, а новых пераходаў так і не відаць. **Хіба што камусьці залежыць на тым, каб бедныя былі далей беднымі.**

Такары, Ялоўка, Белавежа са сваімі пагранічнымі інфраструктурамі маглі б стацца натуральнымі гаспадарчымі імпульсамі на ўсходняй сцяне. Бо пакуль, права на перасячэнне польска-беларускай мяжы без запрашэнняў і рэгістрацыі мае толькі лясная звярына, якую, аднак, часамі пагранічнік уначы можа палічыць нейкім уцекачом са Шры Ланкі і, здорава напугаўшыся, возьме і падстрэліць. Але кіньма жарты і вяртаймася ў наша „4хБ”.

**Умеласць скарыстаць працавітасць людзей у нашым рэгіёне цераз стварэнне ім гаспадарчых шанцаў, а не выкарыстоўванне іх толькі ў якасці выбарчай машыны — будзе найлепшым доказам разумення праблем усходняй Беласточчыны дзяржаўнымі і ваяводскімі ўладамі.**

Людзям проста трэба даць вуды, каб яны самі маглі лавіць рыбу, а не так, што пад канец года кідаецца яе столькі, што і так не хопіць усім, а тыя, якія яе атрымаюць, не наядуцца ўдоваль. Бо інакш як на здзіў, але ў нашым рэгіёне вельмі хутка зробіцца цёпла, а мо і горача ад розных форм грамадскіх пратэстаў.

Людзі не вытрымаюць аднachаснага павышэння аплатаў, абмежаванага доступу да сыравіны з лесу, дзякуючы якой існуюць сямейныя дрэваапрацоўчыя фірмы, якія з павелічэннем зоны Белавежскага запаведніка проста ляснуць. Урэшце, нашых сялян памаленьку даканаюць уведзеныя еўрапейскія нормы; сяляне большасцю непадрыхтаваныя да такой канкурэнцыі. Ужо зараз некаторыя ў адчаі разглядаюцца за майстрамі, якія ўмеюць капаць калодзежы, але на тое... каб у іх халадзіць малако, бо інакш малачарня яго не прыме. Грошай на закуп высакаякаснай малочнай апаратуры большасць вяскоўцаў проста не мае. А адмовіцца ад адзінага пастаяннага фінансавага прыбытку ў сялянскую хату — гэта пахне толькі гібеннем.

І вось канцэнтрацыя таго ўсяго ў адзін момант можа стацца прычынай грамадскіх пратэстаў у нашым рэгіёне. Прыклады ідуць з тэлебачання: застрайкавалі лекары — атрымалі, страйкуюць паліцыянты і ахоўнікі турмаў — атрымаюць! А гэтаму беднаму, што надалей сядзіць ціха, то мае быць толькі вецер у вочы і нож у спіну? Ужо хіба не.

У такой сітуацыі можа распачацца натуральнае змаганне за свае эканамічныя інтарэсы. А першай такой грандыёзнай спробай будуць змаганні ў гмінных, павятовых і ваяводскіх выбарах у 1998 годзе. Напэўна будзе цёпла — але гэта тэма для чарговых разважанняў.

**Яўген Вапа**

*Тэкст дасланы на конкурс на пасаду журналіста.*

# Кафедра беларускай культуры

Ад 1989 года, калі ў Польшчы грамадзянам дазволена ставіць у адрас улад усялякія прапановы і заяўляць пра свае патрабаванні, беларуская інтэлігенцыя Беласточчыны патрабавала адкрыць сваю навуковую ўстанову. Праект стварэння беларускага інстытута ў Філіяле Варшаўскага ўніверсітэта Рада Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, а пасля Управа Беларускага саюза пасылалі кожнаму новаму ўраду, прадстаўлялі ўладам гэтай выключнай навучальнай установы. Адказам найчасцей было маўчанне. Прарэктары Філіяла і дэканы Гуманітарнага факультэта, хаця рашуча не адкідалі патрабавання беларусаў, аднак ветліва адказвалі — няма ў нас памяшкання, не хапае фінансавых сродкаў, а прытым патрабуецца ад вас васьмі самастойных, штатных навуковых супрацоўнікаў. У 1994 годзе адзін з прарэктараў сказаў: „Дайце нам памяшканні, сродкі на штаты і патрэбную колькасць прафесараў, а мы вам адкрыем беларускі інстытут”. У такой сітуацыі не было чаго чакаць дапамогі з боку дзяржаўных ці універсітэцкіх улад і трэба было нешта рабіць грамадскім пачынам. Восенню 1994 года ўзнікла Беларускае гістарычнае таварыства і пачало выпускаць навуковыя кніжкі, прысвечаныя гісторыі беларусаў і „Беларускі гістарычны зборнік”, ладзіць канферэнцыі, апрацоўваць матэрыялы пра малавядомыя ці свядома прамоўчваныя факты з нашай мінуўшчыны. Навуковай літаратурай, якая выпускалася Беларускім гістарычным таварыствам пачалі цікавіцца навуковыя ўстановы ў Польшчы і за яе межамі. Звярнуў на яе сваю ўвагу вядомы польскі публіцыст і выдавец парыжскай „Культуры” Ежы Гедройц.

На пачатку 1997 года прарэктар Філіяла Варшаўскага ўніверсітэта прафесар Адам Ямруз вырашыў стварыць на Гуманітарным факультэце Кафедру беларускай культуры. Кіраванне гэтай установай даручыў прафесар Альжбеце Смулковай з Варшавы. На працу былі прыняты трое сяброў Беларускага гістарычнага таварыства — Лена Глагоўская, Алег Латышонак і ніжэйпадпісаны, а таксама тры супрацоўніцы з Варшавы — Катажына Далэнгоўска, Анна Энгэлькінг і Юстына Страчук, якія цікавяцца этнаграфіяй Беларусі. У найбліжэйшых планах кафедры — апрацоўка падручніка па гісторыі Беларусі, а таксама даследаванне палітычнай і грамадскай беларускай думкі ў XIX і XX стагоддзях. Кожны другі чацвер будуць арганізавацца адкрытыя семінары па гісторыі, літаратуры, культуры і этнаграфіі Беларусі.

**Яўген Мірановіч**

# Нашы карані

**CXVI. Чорныя гадавіны**

Наш цыкл паволі наблізіўся да чорнай, жалобнай гадавіны — 100-годдзя панавання уніі на ўсходніх землях Рэчы Паспалітай. Як і трэба было чакаць, упісалася гэтая падзея трагічна ў мінулае беларускага і украінскага народаў: Сейм у 1697 годзе ўхваліў пастанову: „Pisarz powinien po polsku, a nie po rusku pisać”. Такім чынам забаранялася ўжыванне ў дзяржаве тае мовы, якою больш за 700 гадоў карысталіся грамадзяне гэтай жа краіны ў дзяржаўных дакументах, дыпламатыі, асвеце, друку, на якой гаварылі вялікія князі, духавенства і звычайныя сяляне. Забарона ўжываць у дзяржаўных установах родную і беларусам і ўкраінцам мову — гэта быў страшэнна цяжкі, знішчальны ўдар па іхнім духовым жыцці, культуры, традыцыі. І давяла ж да гэтага ніхто іншы, як толькі унія. Таму што уніяцкая іерархія, базыльянскія манахі і нават звычайнае парафіяльнае духавенства знішчала ўсё праваслаўнае, „рускае”, ну і, вядома, „рускую” мову, без разбору, ці была яна беларускай, ці ўкраінскай, ці нават царкоўнаславянскай.

Адбывалася ўсё гэта адначасна з няспынным і ўсё мацнейшым заціскканнем праваслаўнага духовага жыцця. Папярэдне ў нас ужо ішла гутарка пра тое, што ў адзінай для ўсяе Рэчы Паспалітай Магілёўскай епархіі доўгі час кароль Ян Сабескі не хацеў зацвердзіць на епіскапа архімандрыта Серапіёна. Пасля смерці ў 1697 годзе Сабескага, на трон узышоў Аўгуст II Моцны і зацвердзіў айца архімандрыта на епіскапа магілёўскага. Але калі пра тое зведаў уніяцкі полацкі епіскап Марцыян Белазор, ён дамогся ад караля, каб той скасаваў сваё зацверджанне. І кароль, хоць і меў прозвішча „Моцны”, але ў цісках уніяцкай іерархіі стаў слабы і мяккі, быццам воск. Толькі што ўладыка Серапіён з Варшавы змог прыбыць у Магілёў і не паспеў яшчэ ўрачыста ўзысці на сваю кафедру, як прыімчаліся каралеўскія ганцы ды адабралі ў яго каралеўскую прывілею на епіскапства. Прытым кароль вось якую падаў прычыну свайго ганебнага ўчынку: „Не толькі ў Беларускай епархіі, але і ва ўсім Вялікім княстве Літоўскім праз пасвячэнне ў свяшчэннікаў схізма множыцца”. Інакш кажучы, калі ў праваслаўных не стане епіскапа, тады не будзе каму рукапалагаць свяшчэннікаў і такім чынам праваслаўе загіне. Але ўладыка Серапіён не пахіснуўся. Ён застаўся ў Магілёве і нелегальна спаўняў свае архіпастырскія абавязкі аж да свае смерці ў 1704 годзе.

Праз такую геену вогненную мусілі прайсці нашы продкі. І прайшлі, не паддаліся, стрывалі ўсё. Не выпадкова ж кажуць, што беларусы — гэта самы цярпімы і вынослівы народ. У гэтым яго найбольшая сіла.

**Мікола Гайдук**

# Чэмпіён ваяводства па валейболе

— Праўду сказаўшы, я не разлічваў на першае месца ў I лізе валейбола, — заяўляе трэнер каманды II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы Раман Данілюк. — У мінулым годзе мы перамаглі ў II лізе і толькі сёлета далучыліся да найлепшых.

* * *

19 лютага г.г. у спартыўнай зале Комплексу энергетычных школ у Беластоку адбыўся фінальны турнір I лігі спаборніцтваў сярэдніх школ Беластоцкага ваяводства па валейболе. Чэмпіёнам стала каманда Беларускага ліцэя з Гайнаўкі. Перамагла яна каманду III Агульнаадукацыйнага ліцэя з Беластока вынікам 2:0. На другім месцы апынуўся вышэйзгаданы ліцэй з Беластока, а на трэцім — Комплекс прафесійных школ з Гайнаўкі.

— Беларускі ліцэй у Гайнаўцы прапанаваў Школьнаму спартыўнаму саюзу, каб апошні турнір адбыўся ў новай спартыўнай зале нашага ліцэя, — гаворыць настаўнік фізкультуры Раман Данілюк. — Па незразумелых нам прычынах нашу прапанову адкінулі і мы вымушаны былі ехаць у Беласток. У спаборніцтвах прымалі ж удзел тры каманды з Гайнаўшчыны (Комплекс прафесійных школ, Беларускі ліцэй з Гайнаўкі і Лясны тэхнікум з Белавежы — А. М.).

I ліга валейбольных спаборніцтваў сярэдніх школ налічвае шэсць каманд. У гэтым школьным годзе спартыўныя гульні пачаліся ў пачатку лістапада. Апрача згаданых каманд на спартыўныя пляцоўкі выйшлі вучні Комплексу механічных школ з Беластока і Лапаў.

— У першым туры гульняў, якія закончыліся ў снежні мы прайгралі толькі адзін матч з III Ліцэем з Беластока, — паясняе Раман Данілюк. — У другім туры толькі з Комплексам школ з Гайнаўкі. А яны ж ужо пяць гадоў падрад былі чэмпіёнам ваяводства.

Тамаш Дынкоўскі, Марэк Коська і Чарэк Шыкула — гэта вучні, з якімі трэнер Данілюк працаваў яшчэ ад пачатковай школы. У 1991 годзе стварыў ён валейбольную каманду ў ліцэі. Спачатку былі поспехі ў гімназіядах (спаборніцтвах вучняў I і II класаў). У сярэдняй школе дайшлі Пятро Харкевіч, Міраслаў Куптэль, Андрэй Іванюк, Пятро Мароз, Марыюш Мілеўскі і Пшэмыслаў Паўлючук. У падрыхтоўчым Турніры за кубак Міжшкольнага спартыўнага клуба ў Гайнаўцы Беларускі ліцэй заваяваў першае месца, а ў Турніры імя Віталіса Новіка, таксама ў Гайнаўцы, тыя ж валейбалісты дабіліся другога месца. Шэсць вучняў з ліцэя з'яўляюцца членамі Міжшкольнага спартыўнага клуба ў Гайнаўцы, якi заваяваў другое месца ў мікрарэгіёне паўночна-ўсходняй часткі Польшчы (рыхтаваў трэнер Раман Данілюк).

— Найцяжэй было выйграць з Комплексам прафесійных школ і III Агульнаадукацыйным ліцэем з Беластока. Там многа вопытных вучняў, якія дабіваліся поспехаў ужо ў мінулых гадах, — кажа чацвёртакласнік Тамаш Дынкоўскі, якога прызналі найлепшым валейбалістам I лігі. — Думаю вучыцца пазней у Ольштыне, дык можа там будзе нагода іграць у клубе, што ў I лізе Польшчы.

— Узровень каманд быў падобны. Сведчыць аб гэтым хаця б выйгрыш школы з Лапаў з Комплексам школ з Гайнаўкі, ці са школай з Белавежы. Нашы вучні вельмі сур'ёзна рыхтаваліся да кожнага матча. Усе хацелі дабіцца перамогі, — расказвае настаўнік фізкультуры. — Шкада толькі, што ажно чатырох выдатных валейбалістаў гэта чацвёртакласнікі і праз некалькі месяцаў пакінуць нашу школу. Трэба будзе доўга працаваць, каб папоўніць такую страту.

Перад завяршальным турнірам у спартыўнай зале ліцэя штодзённа адбываліся трэніроўкі і часта арганізаваліся матчы. Раней сустрэчы адбываліся два разы ў тыдзень са старэйшымі вучнямі і два разы з малодшымі.

— Толькі цяпер, калі можам сустракацца ў новай зале, можна арганізаваць спартыўныя матчы. У драўлянай маленькай зале не хапала месца, — тлумачыць трэнер. — Арганізавалі мы валейбольныя спаборніцтвы і ў нашай школе. Пераможцам сталі вучні IV „б" класа. У ім вучыцца найлепшы валейбаліст ваяводства — Тамаш Дынкоўскі. Цяжкая праца вучняў, стаpанні трэнера Рамана Данілюка, шматлікія трэніроўкі і матчы далі станоўчыя вынікі — каманда стала чэмпіёнам.

**Аляксей Мароз**

# „Айчына праваслаўных людзей"

„Сцежкамі праваслаўя" прапануе схадзіць і з'ездзіць Беласточчыну турыстычны даведнік, выдадзены Праваслаўнай спартыўнай арганізацыяй у Польшчы. Ужо салідная цвёрдая вокладка з Прачысценскай царквой у Гарадку на фоне сакавітай зелені дрэў, якую зняў з птушынага палёту Віктар Волкаў, заахвочвае ўзяць кніжку ў рукі. Хто гэта зробіць, не расчаруецца.

Здымкі — як каляровыя, так і чорна-белыя — гэта вельмі моцны бок даведніка. Такія прозвішчы як Волкаў, Пётр Савіцкі, Марк Далецкі, не патрабуюць рэкамендацыі не толькі ў Беластоку. Старыя драўляныя царкоўкі і новыя мураваныя храмы, захад сонца над Нарвай і белыя гусі на зялёным беразе Буга, буслянка на страсе клуні і рэзьблены шчыт вясковай хаты, зіма ў пушчы і асветленыя свечкамі тварыкі дзяцей на Грабарцы — усё цуда! Узброеныя лінзамі фотааб'ектываў вочы гэтых майстроў могуць знайсці прыгожае нават у *блёкавым* пейзажы сучаснага горада.

Тэксты для даведніка пісалі тры аўтары: Крыстафор Аляксюк, Дарафей Фіёнік і Яраслаў Харкевіч. Скіраваныя яны, перш-наперш, на турыста з Польшчы ці яшчэ далейшага заходу, які ведае гісторыю і культуру круга заходняга хрысціянства. Уводзяць у гісторыю і традыцыю праваслаўя ды паказваюць галоўныя адрозненні ўсходняга хрысціянства ад каталіцызму.

Прапанаваныя турыстычныя маршруты па ўсходняй Беласточчыне — пешаходныя, на ровары, байдарцы, машыне — будуць цікавыя не толькі прыезджым, але здзівяць не аднаго гараджанца Беласточчыны. Якія тут магчымасці адпачынку, якое дахоўнае багацце, якая пашана традыцыі! — хочацца ўскрыкнуць, гартаючы кніжку.

Рэдактар выдання ва ўступе прэзентуе Беласточчыну як Эдэм, дзе паветра чыстае, трава зялёная і вада сіняя. А людзі дбаюць адно пра тое, каб захаваць спрадвечную традыцыю, у якой знаходзяць душэўны спакой і найбольшую вартасць жыцця: „У свеце модаў, якія мяняюцца з маланкавай хуткасцю машыны на аўтастрадзе, у свеце кар'ер, жарсці і грошай, традыцыя стаецца ўказальнікам, а нават больш таго — бяспечным прыстанішчам, у якім можна знайсці сваю тоеснасць".

Гэтыя банальнасці, аднак, не абніжаюць вартасці кніжкі. Так, проста, пішуць усе турыстычныя даведнікі, ці то пра індзейскую рэзервацыю ў Арызоне, ці запаведнік прыроды Сэрэнгеці ў Кеніі, ці збудаваны нанава пасля бамбёжу ў апошнюю вайну нейкі нямецкі гарадок. Даведнік „Сцежкамі праваслаўя", апрача пэўнай порцыі пафасу і неабходнай у такіх выпадках аўтарэкламы, дае салідную інфармацыю пра начлегі, харчаванне і культурныя мерапрыемствы ў нашым рэгіёне. Павінен ён стаць на Беласточчыне настольнай кнігай. І вітрыннай — у кіёсках, крамах, гатэлях. Тым больш, што выдавецкае мастацтва тут першакласнае!

**М. В.**

*Ścieżkami prawosławia. Białostocczyzna.* Pod redakcją Anny Radziukiewicz, Białystok 1997

# Унікальная кніга інжынера Барыслава Рудкоўскага

Нядаўна выйшла цікавая кніга на рускай мове „Топография дорог и памятников". Гэта ўжо другое, значна пашыранае выданне, што выйшла з-пад пяра інжынера Барыслава Фаміча Рудкоўскага. Каштоўная кніга (цвёрдая цёмна-зялёная вокладка, залатыя літары на ёй, добрая папера) убачыла свет дзякуючы фінансавай дапамозе Яўгеніі і Валянціна Гушчаў. Трэба нагадаць, што спадар Гушч кіруе вядомым на Бельшчыне прадпрыемствам, якое займаецца продажам вугалю. „Тапаграфія" атрымала таксама бласлаўленне бельскага дэкана а. Георгія Такарэўскага.

Барыслаў Рудкоўскі сваёй кнігай здзяйсняе вялікую краязнаўчую, патрыятычную і хрысціянскую справу. Гэта, бадай, найважнейшая яго праца — жывы, пранікнёны аповед пра нашу Малую Айчыну, яе прыроду, помнікі духоўнай і матэрыяльнай культуры. Словам і графікай паказаны праваслаўныя храмы, манастыры, каплічкі, званіцы, святыя крыніцы, могільнікі, каменныя помнікі з эпітафіямі, курганы, гарадзішчы, збудаванні ды іншыя антрапагенныя аб'екты. На картах народная тапаніміка дарог, мастоў, палёў, урочышчаў і рэк. Аўтар на ўсё глядзіць цэласна, з пазіцыі факта і праўды. Погляды грунтуе на геадэзічных вымярэннях, навуковым доследзе, вусным пераказе жыхароў вёсак і мястэчак, асабістых перажываннях. На вялікі жаль, ва ўмовах разгорнутага навукова-тэхнічнага прагрэсу, бурнага росту гарадоў і гарадскога насельніцтва, з кожным годам становіцца ўсё менш і менш помнікаў матэрыяльнай культуры, знікае лексіка, бяднее этнічная спецыфіка. Беларускі этнас на працягу некалькіх стагоддзяў быў яшчэ дадаткова пазбаўлены ўласнай дзяржаўнасці, ён быў безабаронны перад іншаэтнічным уздзеяннем, фальсіфікатарамі мінулага... А тут у кнізе Рудкоўскага — часта сівая мінуўшчына жывымі вачамі глядзіць у твар чалавека канца XX стагоддзя, ажыццяўляе повязь учарашняга з сённяшнім.

Аўтар галоўным чынам выяўляе сваю адкрытасць і адданасць Праваслаўнай Царкве. Адсюль менавіта бярэцца яго светлая радасць жыцця ды шчырая пашана да ўсяго чалавечага і роднага.

Вартасным чалавекам ёсць той, хто хоча быць сам сабой, хто раздумоўвае самастойна, мае ўласнае разуменне спраў. На правінцыі амбітным і творчым людзям жывецца намнога цяжэй, калі часта спадарожнічае ім неразуменне, цынізм або дзікасць. Інжынер Рудкоўскі свайго часу не кланяўся мясцовым багам і бажкам, ён усё жыццё нясе высакародныя ідэі, самотна рэалізуе свае незвычайныя пазнавальныя імкненні і намеры, дабіваецца важкіх здзяйсненняў. Змагаецца як энтузіяст і рацыяналіст, працуе руплівa і самаахвярна. Нягледзячы на многія горкія жыццёвыя няўдачы і паражэнні, захаваў дабрыню, паўнату чалавечнасці. Ён шчаслівы на шляху да ісціны, да справядлівасці, да сэнсу жыцця.

Апісаннем непасрэднага назірання і даследавання ды мастацкімі рысункамі аўтар засяроджвае таксама ўвагу на мясцовым прыродным багацці і характве многіх амаль першабытных краявідаў. Характарызуе геаграфічнае асяроддзе і яго асаблівасці — геалагічную пабудову, петраграфічную структуру ўтварэнняў, рэльеф, сляды старажытнага абледзянення ў рэльефе, мікраклімат, гідраграфічную сетку, глебы, размяшчэнне лясоў, балот і вадаёмаў, прыстасаванасць флоры і фаўны да ўмоў існавання. Прырода Беласточчыны магутная, буйная, шматколерная, напоўненая пахамі, гукамі, святлом і прасторай. Таму задачай першаступеннай важнасці Б. Рудкоўскі бачыць патрэбу аховы багацця натуральных рэсурсаў. Шчырай трывогай прасякнуты яго разважанні пра з'явы неразумнага, самагубнага ўмяшання чалавека ў прыроду.

Кніга Барыслава Рудкоўскага заахвочвае азірнуцца назад, дзе наша мінулае, душа продкаў, наша сумленне — тое, за што яшчэ можна зачапіцца. Яна — родны схоў і важная крыніца вывучэння культуры побыту карэннага насельніцтва паўднёва-ўсходняй Беласточчыны. Вяртанне ў сваё прошлае, з якога павявае хатне-айчыннай цеплынёю, сардэчнасцю і шчырасцю — гэта нішто іншае, як толькі патрэба ачышчэння душы, споведзі перад вечнасцю спадчыны.

„Топография дорог и памятников" адрасуецца шырокаму колу чытачоў. Ёй належыцца грамадскае прызнанне. Вартасць мастацкага ці навуковага твора не раз вымяраецца яшчэ і тым, як далёка яго аўтар глядзіць наперад. Фундаментальная праца інж. Рудкоўскага сваім філасофскім зместам-ідэяй пераломвае наша тутэйша-беластоцкае рабства, становіцца пэўнай апорай для духу, пашырае перспектыву аптымізму.

Добра склалася, што „Тапаграфія" напісана кірыліцай — сімвалам нашай веры, гістарычнай памяці, трывання, духоўнай еднасці і паратунку. Нельга не заўважыць і тое, што руская мова як адна з шасці моў міжнародных зносін шырока адкрывае кнізе дарогу ў свет. Логіка падказвае, каб лучнасць з замежжам утрымоўваць сёння і ў будучыні.

**Юры Баена**

*Інж. Рудковский Борислав Ф., *Топография дорог и памятников*, Бельск Подляский 1997, сс. 144.

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Загадкі!

Усіх нас корміць, а сама есці не просіць. (вЛэмЄ)

Без ног бяжыць, без вачэй глядзіць. (вДоВ)

Хутка грызе, дробна жуе, а не глытае. (віПП)

**Даслала Аліна СІРОЦКА**

# Хрысціны ў Аўгустове

**1814 год. У сяле Аўгустова, жыхары якога яшчэ з ягелонскіх часоў лічыліся бельскімі мяшчанамі, прыходзіць на свет Божы сын Пятра і Марысі Навіцкіх. Хрысцяць яго Іванам. На хрысцінах у Аўгустове гасцюе а. Іона, ігумен Мікалаеўскага манастыра ў Бельску. Прыбывае таксама Рох Сікорскі, сябар Пятра, які хрысціны гэтыя апісаў у сваім дзённіку „Запіскі падляшскага мешчаніна. 1790-1816".**



*Бабуля, а. Іона і кума.*

Такі сюжэт яшчэ не паяўляўся ў школьным самадзейным тэатры.

Дарафей Фіёнік, апякун тэатральнай дзіцяча-маладзёжнай групы „Ягуштова" пераканаены, што традыцыя роднай мясцовасці жыве ў кожным чалавеку. У сённяшні час трэба аднак шмат працы, каб вярнуць гэту свядомасць.

— Спачатку дзеці бунтаваліся, — успамінае ён, — але пасля некалькіх рэпетыцый пачалі з энтузіязмам удзельнічаць у занятках. Зварот да роднай эстэтыкі напаўняе чалавека жыццёвай энергіяй і пачуццём гонару.

Хрысціны ў Аўгустове пачаліся ўпрыгожваннем кашы. Гэты абрад спаўняла кума і яе суседкі-маладзіцы. Пасля шыкарнага ўпрыгожання хрысціннай кашы жанчыны ладзілі карагод. Кума слала сабе на галаву ручнік, ставіла там пасудзіну з кашай і разам з жанчынамі абыходзіла сяло. Абраду спадарожнічалі спецыяльныя для гэтай нагоды песні.

Вельмі цікава прадставіла ролю кумы **Юстына Вышкоўская**. Яна не толькі прывабна і смела паводзіла сябе на сцэне. Дзяўчынка выступіла ў святочным адзенні сваёй прабабкі аўтэнтычнай рэгіянальнай вопратцы канца XIX ст.

Сярод акцёраў вылучыліся таксама **Аля Асташэвіч** (іграла ролю мамы Іванка) і **Аня Busловіч** (суседка). Натуральна зайграў сваю ролю **Дарафей Фіёнік**. Ён выступіў як ігумен бельскага Мікалаеўскага манастыра а. Іона.

Цікавымі матывамі спектаклю паказаліся не толькі прызабытыя абрады як каша, успамаганне бабулі, гуцанне бацькоў і кумоў дзіцяці, але і багаты рэпертуар абрадных песень. Некаторыя з іх сталі ўжо шырэй вядомымі. Прыгадайма тут, хаця б, жартоўную песню „Ой і кум да кумы заліцаецця" ці „Клёном-лістом". Сярод спевакоў бліскуча вылучалася ліцэістка **Мажэна Дзмітрук**.

Атмасферу пастаноўкі дапоўніла сцэнічнае афармленне ў выглядзе вясковай хаты.

Спектакль быў не толькі добрым урокам традыцыйнай эстэтыкі, але і сустрэчай з гісторыяй сяла.

* * *

Прэм'ера спектакля „Хрысціны ў Пятра Навіцкага, руок 1914" адбылася 21 лютага г.г. у Пачатковай школе ў Аўгустове.

Дзіцяча-маладзёжны тэатр „Ягуштова" ўзнік у 1996, г. пры праваслаўнай парафіі.

— Не было б такой дзейнасці, калі б не падтрымка айца **Яўгена Хадакоўскага**, — кажа кіраўнік групы. — Сам святар неаднойчы адзначаў ролю культуры ў жыцці вёскі і парафіі.

— Цераз гэты спектакль мы і нашы дзеці сталі багацейшымі і лепшымі, — сказаў **Валянцін Гліва**, дырэктар Пачатковай школы ў Аўгустове.

Ён паабяцаў маладым энтузіястам тэатра фінансавую падтрымку. Прыгадайма, 28 лютага 1997 г. тэатр „Ягуштова" выступіў са спектаклем „Кліканне вясны". З гэтага года — самадзейнікі працуюць у рамках праграмы „Зорка", а аўтарам праекта з'яўляецца Дарафей Фіёнік.

**Ганна КАНДРАЦЮК**

*Фота аўтара*



*Гуцанне мамы Івана.*



*Карагод з кашай.*

## Пячнік Глеб

Мішка Глеб печ будаваў,
Кафлі сам на цэглы клаў.
Каб агонь грэў печцы бокі,
Склеіў гонкую сцяноўку.
Працягнуў ляжайку дзеду,
Каб пагрэў спіну ў патрэбе.
Ну, а ніжай, каб для хлеба,
Шчэ зрабіць „пячору" трэба...
Печ, здаецца, аж да неба,
І як сонца грэе Глеба,
Ўсю мядзведзеву сямейку:
Федзю, Тэклю і Сяргейку.
Дзед Міхайла, баба Варка
Кажуць: „Вось дык гаспадарык!"

**Міра ЛУКША**

# Конкурс „Каралеўская пушча"

Я думаю, што ў гэтым конкурсе ў ніякім выпадку не павінны адсутнічаць чытачы „Зоркі". Вось, у студзені г.г. Надлясніцтва Белавежа супольна з Белавежскім асяродкам культуры, Аддзелам ПТТК і войтам гміны Белавежа аб'явілі конкурс п.з. „Каралеўская пушча", да ўдзелу ў якім запрашаюць дзяцей і моладзь. Арганізатары конкурсу чакаюць (да 30 мая 1998 г.) мастацкіх прац, выкананых адвольнай тэхнікай, у якіх будуць адлюстраваны прырода Белавежскай пушчы, ахова яе рэсурсаў, гаспадаранне тут чалавека, а таксама мясцовыя традыцыі, звычаі, людзі ці турысцкія аб'екты.

Вынікі конкурсу будуць аб'яўлены 15 чэрвеня 1998 г. Працы можна дасылаць на адрас: **Nadleśnictwo Białowieża, ul. Wojciechówka 4, 17-230 Białowieża**. Тут таксама можна больш падрабязна даведацца аб конкурсе. Інфармацыю можна атрымаць у Анджэя Антчака (н-р тэл. 681 2405) і Кшыштафа Замойскага (н-р тэл. 681 2410). За мастацкімі парадамі можна звярнуцца да дырэктара Белавежскага асяродка культуры Леха Навацкага (н-р тэл. 681 2460).

Жадаю поспеху!

**Пётр БАЙКО**

# Дзеткі з „Васілёчкаў”



Напэўна, многія з чытачоў „Зоркі”, ды не толькі тыя, што жывуць у Бельску, чулі пра бельскі самадзейны калектыў „Васілёчкі”. Заснаваны ён быў ужо даўно — у 1964 годзе. Яшчэ тады вас не было на свеце, а нават і мамы ды таты вашы яшчэ не ўсе нарадзіліся.

У будучым годзе „Васілёчкі” будуць спраўляць сваё 35-годдзе. Доўгі час гэтым калектывам кіраваў спадар Сяргей Лукашук. Выступалі яны найперш у Бельску і блізкай ваколіцы, а пасля — штораз далей: у Беластоку ды ў іншых гарадах Польшчы, на Беларусі і ў іншых краінах.

Цяпер калектывам кіруе спадар Уладзімір Сахарчук. Нядаўна „Васілёчкі” выступілі на фестывалі „Беларуская песня ’98” у Беластоку. Калі яны ўвайшлі на сцэну, сярод публікі пачуліся галасы: «Во, з „нарыбкам” прыехалі!»

Справа ў тым, што членамі калектыву ад нядаўна з’яўляюцца дзве музыкальныя дзяўчынкі: Эмілька і Марта Далінскія, дачушкі акампаніятара Веслава Далінскага. Эмільцы ўжо сем гадоў і яна вучыцца ў першым класе, а Марце — усяго чатыры з паловай.

Але не глядзі, што Марта малая! На сцэне яна зусім не баіцца і бойка іграе на трашчотцы. Яе старэйшая сястра іграе на больш складаным народным інструменце — валкаўніцы.

Любяць дзяўчаткі ездзіць з калектывам на выступленні. А мо не страшна ім быць на сцэне, перад шматлікай публікай, бо побач — іх тата...

**Ада Чачуга**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*

# Дубава доля

Вырас у лесе дубочак. Прыгажуном яго называлі. Просценькі ствол, пругкія галінкі. Сонца яму свяціла, птушкі з усяго лесу прылятаЛі, каб яму песенькі спяваць. А адна маладзенькая бярозка з вялікага кахання пачала лісточкі губляць. Рос дуб на палянцы ў старой частцы лесу. Дрэвы вакол былі старыя і сумныя. Сосны-матулі нашчадкаў сваіх не выгадавалі і таму глядзелі на дубочка, як на сваё ўласнае дзіця. Пестуном рос дубочак.

Ганарыстым быў юнаком. На нікога не глядзеў, а ўсе ім захапляліся. Сваю карону трымаў ён высока і ніякім вятрам не кланяўся. Матулі-сосны свайго пестуна ад холаду і ветру бераглі. Хто быў яго бацькам? Адкуль ён узяўся ў гэтым лесе соснаў, вольхаў і бяроз — не ведалі дрэвы. Не ведаў таксама дубочак.

Толькі адзін клён на ўскраіне лесу гаварыў, што дубочак — падкідыш, а не кароль пушчы, што прынесла яго ў гэтую частку лесу вавёрка ды згубіла сярод соснаў.

Але вядома, што клён ніколі сябрам дуба не быў і мог гэта з чыстай зайздрасці выдумаць.

Рос дубочак не пераймаючыся тым, што пра яго гаварылі. Рос і прыгажэў. Так было да часу, калі ў лес прыйшлі малыя людзі, якіх дзецьмі часта ў той далёкай краіне называюць. Пачыналася гэтая краіна там, дзе канчалася поле, на якое з ускраіны лесу глядзеў клён.

Прыйшлі ў лес гэтыя малыя варвары з самага ранку. Бегалі, крычалі і ламалі галінкі. Потым з ламачча зрабілі нешта накшталт сонца, але гэтае сонца не грэла, толькі паліла і знішчала кару. Праз нейкі час варвары-малалеткі пайшлі. Аднак штосьці пакінулі. Быў гэта маленькі кавалачак таго сонца, пры якім грэліся. Яны яго не бачылі, бо згары ім здавалася, што прытапталі яго ботамі і залілі вадою, якую прынеслі ў кошыку, у каляровай бутэльцы. Але яно, тое злое сонца, толькі і чакала, каб яго гаспадары пайшлі.

Сядзеў той аскепак сонца ціхутка, а калі дзеці даходзілі да вёскі, пачаў кусаць ніжэйшыя галінкі. Кусаўся ён вельмі балюча і рос з кожнай хвілінай, рабіўся большы і большы. Зглядзелі яго бацькі тых малых людзей, якія ў лес прыходзілі.

Пачалі лавіць тое сонца, капаць равы, ліць ваду і ўрэшце ўдалося ім загубіць страшэннага ворага лесу. Усё-такі многія дрэвы загінулі, а наш дубочак, прыгажун лесу, стаў аднабокім, апаленым інвалідам. Толькі дзякуючы дабраце прыроды ажыў і стаў паўнацэнным дрэвам, нават жалуды ў яго нарадзіліся. Гэтае цяжкое выпрабаванне скінула з плячэй дуба пагарду для іншых дрэў. З гэтай пары стаў ён добрым сябрам усіх ацалелых з вогненнага пагрому. Не быў ужо дуб прыгажуном, але перастаў быць такім эгаістам, як раней. Цяжкае выпрабаванне і пагроза смерці многаму навучылі.

Так і з людзьмі, кажуць, бывае. Расце прыгажун, разумнее, здаецца ўсе пад яго нагамі.

Часта аднак здарыцца нешта і... за дзвярыма вялікага шчасця і весялосці чакае няшчасце. Сядае весялун у аўтамабіль, націскае да канца правую педаль бацькавае ці свае ўласнасці. Свет адкрыты!

Эпілог гэтага бывае не заўсёды шчаслівы. Дай вам Бог, маладыя дубы, каб не агонь і не сутыкненне з нечым намнога цвярдзейшым за ваша цела, розуму вас навучыла. Няхай веру ў нязмераныя ўласныя магчымасці папярэджвае не вельмі цікавая і прыгожая „бабуля” — асцярожнасць. Шчасця вам усім, мае дарагія.

**Іаланта Грыгарук**

# Польска-беларуская крыжаванка № 11

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 6:**

Малеча, вакал, каліва, кулік, каснік, міг.

Сум, вакса, валун, кілім, чаравікі, лак.

Узнагароды, **запісныя кніжкі**, выйгралі: **Аня Касцючук** з Кленік, **Агнешка Качаноўская** з Чыжоў, **Марта Добаш** з Бельска-Падляшскага і **Андрэй Крук** з Новага Корніна.

**Віншуем!**

Узнагароды можна ўзяць у рэдакцыі „Нівы” або чакаць іх у сваёй школе.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| ► | ▼ | | Wiąz / Temat / Niewolnik ▼ | ▼ | ▼ | ▼ |
| ► | | Jar / Rzepa / Okazja ► ▼ | | | | |
| 📖 | Ar / Aluzja ► | | | | | |
| Pies ► / Wstyd ▼ | | | | | | |
| ► | | | Bóg | Don ▼ | Wypiek / Osa ▼ | Rzeka |
| Rondo ► | | | | | | 📖 |
| ► | | | | | | Taca |
| Magnat ► | | | | | | |

# Пачынаецца ўсё з любві

*(пачатак у 8-ым нумары)*

**Летапісец:** Частка чацвёртая: Уільям Шэкспір „Рамэо і Джульета”. Музыка: раманс „Зорка Венера”.

*(На сцэне паяўляюцца Рамэо і Джульета. Рамэо надымаецца на крэсле і выконвае балконную сцэну).*

**Рамэо:** Што за святло ў акне мільгае? Джульета — Сонца. Устань ты, сонца, і забі месяц, які збялеў ад зайздрасці і злосці. Мая ўладарніца! Любоў мая, о, каб ты ведала. Яна гаворыць? Не... маўчыць. Гавораць толькі вочы. Трубадур, іграй!

*(У гэтай хвіліне пачынае іграць трубадур „Зорку Венеру”).*

**Джульета:** Рамэо, ах, чаму Рамэо ты, ад бацькі адрачыся, а не, дык пакланіся мне, што любіш і я дачкой не буду Капулеці.

**Рамэо:** Гаворыць! Гавары, мой светлы анёл! Над галавой маёй ты так жа зззяеш, як ззяе пасланец неба, калі плыве на воблаках лянівых і смяротныя закінуўшы галовы, у захапленні яму ўслед глядзяць.

**Джульета:** Не ты, адно імя тваё мой вораг. Ты ж сам сабой, зусім ты не Мантэкі. Бо што ж Мантэкі: твар, рука, нага ці што яшчэ. Імя другое ты сабе вазьмі. Бо што ж такое назва? Як ружу не заві, а пах той самы. Рамэо, каб не Рамеа быў і без імя застаўся б ён цудоўным. О, кінь імя Рамеа. Бо не яно частка цябе, а за імя ты ўсю мяне вазьмі.

**Рамэо:** Паслухаць мне яшчэ ці адказаць?

*(Брэша сабака і яны ўцякаюць).*

**Летапісец:** Гётэ — „Фауст”: „Ноч Вальпургіі” і музыка Рышарда Вагнера: „Ноч Валькіры”.

*(На сцэну ўлятае на мятле Ведзьма і кліча яшчэ дзвюх сяброўак. Яны цягнуць з сабой галоўную Ведзьму. Пад музыку выконваюць шалёны танец чараўніц).*

**Ведзьма І:** На Брокен ведзьмы, на папас. Там рунь ужо чакае нас. Там Урыян у карагод сабраў увесь нячысты зброд. Хутчэй туды, на мётлах едзьма, смярдзіць казёл, смярдзіць і ведзьма.

**Ведзьма ІІ:** Шырокі шлях, усім праход, а мы стаўкліся на скале! Хто з віламі, хто на мятле. Цяжарнай раздушылі плод.

**Ведзьма ІІІ:**

Ды не зусім дакладна гэта:
Хай зробіць крокаў сто кабета,
Мужчына ж у адзін скок
Паабганяець усіх жанок.

**Ведзьма І:**

Хадзем за намі,
Вы з азёр!

**Ведзьма ІІІ:**

Віхуры сціхлі, змоўклі, ледзь завылі дзесь
Ваўкі ў гарах.
Імчыцца гурт распусных Ведзьм,
А следам іскры, серкі пах.

**Ведзьма ІІІ:** Чакайце, стойце, не крычаць!

**Ведзьма І:** Хто гэта енчыць наўздагон?

*(На сцэну ўваходзіць апантаны Фауст).*

**Фауст:**

Чаго яны гэтак снуюць,
Каля плахі
Нешта гатуюць,
Рыхтуюць, лунаюць, сядаюць
І зноў узлятаюць.
Там чортава катлішча
Варожыць і вядзьмарыць.

*(Бегае ўкруг і натыкаецца з ведзьмай).*

***(працяг у наступным нумары)***



Талон „Зоркі” № 11
15.03.1998

Да дваццацігоддзя калектыву „Цаглінкі” з Ляўкова

# Цаглінкі добрага, прыгожага



Хросны бацька калектыву „Цаглінкі” Аляксандр Бандарук складае пажаданні на рукі кіраўнічкі Валянціны Грыкі.

Ляўкоўскае керамічнае прадпрыемства не толькі дадае бляску тутэйшаму наваколлю, забудаванаму моцнымі, мураванымі дамамі, з прасторнай, як у вялікім горадзе, святліцай ды сваім гатэлем у самім Ляўкове, але і дбае пра духоўнае багацце жыхароў гэтай вёскі.

Менавіта на Ляўкоўскім керамічным прадпрыемстве больш дваццаці гадоў таму нарадзілася ідэя стварыць мастацкі калектыў. Тады дырэктарам прадпрыемства быў Канстанцін Майсеня і менавіта была гэта яго прапанова. Валянціна Грыка, кіраўнічка калектыву, канстатуе: „Я думаю, што спадар Майсеня любіў пакідаць па сабе „памяткі”. Узяць хаця б крамы на Гайнаўшчыне, а цяпер вось Беларускі музей”.

Валянціна прыйшла ў калектыў крыху пазней. У нас гэта, можна сказаць, сямейнае, тлумачыць яна мне. Душа рвалася да песні, ды і сяброўкі спявалі, заахвочвалі ў калектыў.

А ад самага пачатку (з тых, што і цяпер у калектыве) спявалі: Ніна Рэент, Вера Сват, Ірэна Міранов іч, Марыя Русіновіч, Надзея Кабаць, Вера Осяк. Усе яны працавалі на керамічным прадпрыемстве. Адразу ў калектыве сабралася каля трыццаці чалавек. Майсеня даў інструктара. Быў ім Аляксандр Лукашук. Пасля доўгі час калектывам кіраваў настаўнік Васіль Целушэцкі, а яшчэ пазней пачалі прыязджаць музычныя інструктары з Беларусі. Спачатку быў гэта Вячаслаў Пакумейка, цяпер вось ужо амаль пяць гадоў даязджае Мікалай Мяжэнны — выкладчык Гарадзенскага мастацкага вучылішча. У Ляўкове ён бывае столькі, колькі трэба. Вядома, перад такімі важнымі імпрэзамі, як Фестываль беларускай песні ці нейкімі паездкамі, трэба бываць часцей, але і так ён тут праводзіць рэпетыцыі з калектывам не менш, чым два разы ў месяц.

За апошні час вельмі ўзрасло майстэрства калектыву, пашырыўся яго рэпертуар. Сёлета на V Фестывалі яны занялі высокае другое месца ў катэгорыі апрацаваная песні.

...Калі ўжо „хрысцілі” ляўкоўскі калектыў 24 лютага 1979 года, Канстанціна Майсені ўжо не было на прадпрыемстве, а дырэктарам стаў Аляксандр Бандарук. Першым знакам яго прыхільнасці да ляўкоўскіх „Цаглінак” было тое, што ён згадзіўся быць хросным бацькам калектыву і сам пачаў спяваць у „Цаглінках”. І толькі ад часу, калі месцам яго пастаяннага жыхарства стала Гайнаўка, ён спявае ў хоры Гайнаўскага дома культуры. Дык як тут было не клапаціцца пра сваіх „артыстаў”! І трэба падкрэсліць, што гэта прывычка засталася ў яго да сёння.

Гэты калектыў, гаворыць мне дырэктар А. Бандарук, асацыюецца ў маім уяўленні з нашым прадпрыемствам. Ужо сама назва „Цаглінкі” гаворыць за тое, што гэта наш калектыў. Апрача таго, ён жа і рэкламуе наша прадпрыемства. І таму, калі ёсць найменшая магчымасць дапамагчы яму, мы гэта робім.

...Першы раз выступілі на фэстыне ў паднараўчанскіх Свінарыях. Вера Осяк дзеліцца са сцэны тадышнімі ўражаннямі. Калі мы ў Нараўцы занялі першае месца, дык думалі, кажа яна, што ўвесь свет належыць нам. А вось і цяпер, пасля гала-канцэрта, былі мы ў нябёсах. Але што ж, калі з маладымі ў нас кепска, а мы выкручваемся... (немалады мужчынскі голас з залы: „Дай Божа ім здароўя!”).

Пасля пачалі ездзіць далей. Спачатку ў недалёкія вёскі, у Беласток, а пазней і ў Гародню, Пінск, Варшаву ды яшчэ шмат куды. І спеў іх становіцца штораз больш зладжаны. Коля (Мяжэнны) умее трымаць дысцыпліну, расказваюць харысткі, а гэта ж залог поспеху.

І яшчэ пра адну асобу гавораць тут абавязкова. Валянціна Грыка — яна ў нас кіраўнічка святліцы, але і кіраўнічка калектыву, падкрэсліла Вера Осяк, калі мы гаварылі з ёю яшчэ ў Беластоку, пасля цэнтральнага агляду „Беларускай песні '98”. Гэты чалавек нас у калектыве трымае, мы ў адну сям'ю цэментуемся дзякуючы ёй.

Напэўна, кіраўнічцы прыемна было пачуць гэтыя словы, тым больш, што самому пра сябе што скажаш?! Вось і Надзея Кабаць падкрэсліла: „Нельга самім хваліцца. Стараемся!” З гэтага вынікае, што праўду сказала сакратар Беларускага таварыства В. Ласкевіч (вяла канцэрт): гэтых працавітых людзей гнаць да спеву не трэба!

Урачыстае святкаванне дваццацігоддзя „Цаглінак” адбываецца 28 лютага г.г. у ляўкоўскай святліцы. Шмат тут сёння гасцей, ды гэта не толькі ўлады Нараўчанскай гміны (войт Мікалай Павільч, старшыня Рады гміны Яўген Валкавыцкі, старшыня ГОКа Андрэй Скепка), якія завіхаліся тут як маглі, але і два паслы ў Сейм (Сяргей Плева і Ян Сычэўскі), і консул РБ у Беластоку Мікалай Крэчка з жонкай, і прадстаўнік Міністэрства культуры РБ Аляксандр Сасновіч, які ў падарунку калектыву прывёз два нацыянальныя касцюмы (мужчынскі і жаночы) з ручной вышыўкай (сама я дакранулася). Быў таксама Анатоль Вакулюк, дарадчык Уладзімежа Цімашэвіча, быў дырэктар Аддзела культуры і турызму Ваяводскай управы ў Беластоку Казімеж Дэркоўскі, быў мясцовы пробашч Леанід Янкоўскі і хросныя бацькі калектыву (маці — былы бухгалтар Беларускага таварыства Галена Мялешка), было таксама тэлебачанне і яшчэ іншыя фотакамеры.



Ужо амаль пяць гадоў з калектывам працуе музычны інструктар Мікалай Мяжэнны.



Вера Осяк была адной з пачынальніц.

Са сцэны плывуць песні, якімі калектыў „Цаглінкі” праслаўляў беларускае мастацтва на працягу дваццаці мінулых гадоў. Лёгка спяваецца ім, бо яны тут гавораць на амаль чыстай беларускай літаратурнай мове. Не глядзі, што сёння калектыў спявае не ў поўным складзе, бо ў шасцярых жалоба і яны не выступаюць. Чуваць бойкія песні „Ой, ляцелі гусі з броду”, „На вуліцы грымата” ды іншыя. А песню „Ляўкова, Ляўкова” на словы і музыку Мікалая Мяжэннага калектыў быў вымушаны развучыць за два дні (Коля дацягнуў да канца!).

Выступаюць таксама мастацкі калектыў з Нараўкі і абаяльны маладзёжны калектыў „Лучына” адтуль жа, а таксама калектыў „Чыжавяне” — з суседняй гміны. Зусім нядаўна яны святкавалі сваё дзесяцігоддзе і там выступалі „Цаглінкі”.

А пасля — віншаванні, кветкі, падарункі юбілярам. Але над усім лунаюць беларускія песні, якія заспявалі нам ляўкоўскія самадзейнікі. Яны — быццам асобныя раздзелы, цаглінкі, а кожная цаглінка — гэта новае дасягненне ў іх імкненні да добрага і прыгожага.

**Ада Чачуга**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*

# Цудоўны канцэрт

Цудоўны канцэрт адбыўся ў Нараўцы 21 лютага. БГКТ наладзіла тут выступленне Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору Беларусі імя Цітовіча. Рэдкая з'ява, калі ў гмінным вясковым цэнтры выступае такі заслужаны і шырокавядомы калектыў. На невялікай па памерах сцэне мясцовага дома культуры артыстам было цеснавата, але канцэрт прайшоў паспяхова.

Цэлую гадзіну ліліся звонкія беларускія народныя песні. Яны перапляталіся маланкавымі віртуознымі танцамі. Песні, танцы, музыка і чароўныя ўборы стварылі цудоўны, непаўторны настрой. Лютаўскі вечар быў надзвычай цёплы.

У захапленні гледачы слухалі такія песні, як: „Ой, у полі тры крынічанькі”, „Як пад горкай ля вады”, „Цераз рэчаньку, цераз балота”, „Ой, каліна, ой, маліна”, а таксама польскія: „Зязюлька кукуе” і „У маім агародчыку”. Асабліва кранула душу сучасная песня „Маміны рукі”.

Публіка доўга не адпускала артыстаў са сцэны і яны былі вымушаны выконваць песні на біс. Кожны пункт праграмы быў доказам высокага выканаўчага майстэрства калектыва, якім кіруе прафесар Міхась Дрынеўскі.

На канцэрце прысутнічалі: старшыня Галоўнага праўлення БГКТ, пасол Ян Сычэўскі, сакратар ГП Валянціна Ласкевіч і прадстаўнікі гміннай улады ў Нараўцы.

Акрамя нараўчан на канцэрт прыехалі жыхары навакольных вёсак, між іншым з Ляўкова, Міклашэва і Альхоўкі.

Гледачоў з Нараўкі было чамусьці нямнога, хаця білет каштаваў сімвалічныя два злотых. Тыя, што не прыйшлі, могуць цяпер шкадаваць. Другі такі канцэрт пэўна няхутка Нараўка пабачыць.

Пасля канцэрта можна было купіць касету „Звонкія галасы Беларусі”, каб у хатнім зацішшы яшчэ раз вярнуцца да высакародных пачуццяў, якія пакінулі нараўчанам госці з Мінска.

**Мікалай Варанецкі**

# Першыя ластаўкі

Амаль штогоду, пераважна ў разгары турыстычнага сезона, нехта выдае новыя паштоўкі, якія папулярызуюць Белавежскую пушчу. У гэтым годзе першым выдаўцом аказалася Паўночна падляшскае таварыства аховы птушак. Выпусціла яно невялікую серыю паштовак, з якіх дзве паявіліся ў продажы ў Белавежы ўжо напрыканцы лютага. На адной паштоўцы бачым стоячага ў высокіх, лясных травах зубра, з надпісам: „Прывітанні з Белавежы”, на другой — агульны від белавежскай царквы ў промнях заходзячага сонца. Аўтарамі здымкаў з'яўляюцца Пшэмыслаў Бяліцкі і Рос-Мары Рогведэр. Абедзве паштоўкі даволі ўдалыя і карыстаюцца ўжо поспехам першых сёлетніх турыстаў.

**Пётр Байко**

# Кушнер

**Калі кажухі выйшлі з моды, пачаўся заняпад кушнерства. Яраслаў АДЗІЕВІЧ — сёння 70-гадовы пенсіянер, жыхар Орлі гарбарствам і кушнерствам займаецца ўжо больш за паўстагоддзя, а яго вырабы вядомы далёка за межамі мястэчка.**



— Пачынаў я з нуля, — успамінае кушнерскі майстар. — Маё дзяцінства і юнацтва, босае і галоднае, прайшло на 10-гектарнай бацькоўскай гаспадарцы. У 1946 годзе пайшоў я на два гады вучыцца апрацоўваць і вырабляць шкуры ў Фёдара Себесюка ў Бельску. У 1948 годзе прызвалі мяне на 27 месяцаў у войска. Служыў я пагранічнікам у Шчэціне. Пасля войска вярнуўся я ў майстэрню Себесюка і працаваў там работнікам, а праз два гады вярнуўся дадому, у Орлю. Тады можна было кушнерыць, але нельга было вырабляць шкуры, бо ўлады не давалі на гэта дазволу. Але гарбарскай справай людзі займаліся нелегальна, нягледзячы на тое, што хаця за гэта пагражала турэмнае зняволенне. Хаця нядобразычліўцы і на мяне пісалі даносы, аднак міліцыі злавіць мяне не ўдалося. Мабыць, ратавала мяне яшчэ і тое, што быў я кіраўніком мясцовага дома культуры ды спяваў у беларускім калектыве „Арляне".

Ажаніўся я ў 1956 годзе і сем гадоў жылі мы пры бацьках. Першыя кажухі шыў я ў кухні пры свечцы або газоўцы. Электрычнасць была тады рэдкай з'явай і нямногія маглі сабе дазволіць карыстацца электраэнергіяй. Усё рабіў я ўласнымі рукамі: вырабляў шкуры, шыў, вышываў, рабіў гузікі і ніці. З часам паставіў я свой дом, а потым майстэрню. У Нурцы-Станцыі купіў я машыну, старэйшую за мяне.

Перад пачаткам дублення трэба было ацаніць якасць сырцу пры дапамозе зроку, дотыку і нюху. Потым сырыя шкуры кансервавалі соллю, затым гарбавалі пры дапамозе раслінных, хромавых або замшавых рэчываў. Для гэтага патрэбна было адпаведнае начынне і абсталяванне, напрыклад, драўляны цытрок, кадзь, бубен, ступа. Каб вырабіць 20 аўчын трэба 20 літраў вады і 2 кг мурашынай кіслаты. Пасля ачысткі праводзілася мяздрэнне — устараненне на шліфавальным станку мяздры, у выніку чаго шкура становіцца мяккай. Чарговыя працэдуры — гэта пакрыццё тлушчам, глянцаванне, фарбаванне.

Цяперашні кажух не баіцца дажджу. Але калісьці людзі не ведалі хравання шкур і калі ішоў мокры снег, вывaрачвалі кажух воўнай уверх. Зараз кажухі выйшлі з моды, а і зімы сталі лагодныя, без лютых маразоў. Людзі цёплыя кажухі ўспамінаюць зімою. І найчасцей тады кліенты заходзяць у маю майстэрню...

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Падзяка

Спадары М. надумалі адкрыць краму. Спатрэбілася прадаўшчыца. Зараз цяжка знайсці добрасумленнага працаўніка ў гандлі. Таму купцу доўга прыйшлося разглядацца за кандыдатам. Выбраў Ірэну.

Жанчына была маладая, з адукацыяй, без дрэнных прывычак. А і пра бацькоў нельга нічога дрэннага сказаць. З жонкай спадара М. знаёмая была, сяброўкай лічылася. Пані М. неаднойчы размаўляла з Ірэнай наконт працы. Урэшце дамовіліся.

Крама змяшчалася ў рухлівым пункце, насупраць школы і таму кліентаў з першага дня хоць адбаўляй. Прадаўшчыца акуратна абслугоўвала кліентаў, таму і пашану ў хуткім часе завявала.

Ірэна працавала ад світання да змроку, па дзесяць гадзін, а то і больш. У час пастаўкі тавараў заставалася даўжэй, каб толькі сваім шэфам дагадзіць.

І так цяклі дні. Мінуў месяц-другі. Прадпрымальнік убачыўшы, што зацікаўленасць кліентаў крамай павышаецца, а прыбытак павялічваецца, стаў больш тавараў пастаўляць.

З надыходам вясны справа ў прадаўшчыцы пачала ўскладняцца. Прабываючы даўжэй на рабоце, Ірэна занядбоўвала сям'ю. Для сваіх дзетак госцем у хаце была. Мацярынскага цяпла іх пазбаўляла. Мужык непрыхільна пачаў адзывацца наконт даўжэйшага прабывання на рабоце. Ды і бацька Ірэны крывым вокам на гэта глядзеў.

— Скажы крамару, няхай зарплату павысіць, — казалі Ірэне. — Мала што даўжэй працуеш на штодзень, то і ў нядзелю спакойна адпачыць не даюць.

Жанчына доўга не адважвалася шэфу пра павышэнне зарплаты намякнуць. Аж пасупіў такі дзень.

— Пане М., — нясмела адазвалася прадаўшчыца, — можа бы так некалькі злотых прыбавілі? Работы ўдвая ўвялічылася. А я ж адна...

— У мяне няма лішніх грошай! — груба заявіў спадар М. — А калі спатрэбіцца табе вольны дзень, мы самі цябе заступім у краме. Канец і кропка!

Незадоўга потым Ірэна прыкмеціла, што прадпрымальнік інакш да яе пачаў адносіцца. А і ад даўнейшай сяброўкі (пані М., значыцца) халадком павеяла.

Аднойчы крамар сказаў: „Заўтра перападлік робім. Новая прадаўшчыца паступае на работу..."

Перападлік прайшоў паспяхова (дарэчы, і раней не інакш было). З таго часу дзве прадаўшчыцы сталі працаваць у спадароў М. Стараліся маладзіцы як маглі, каб шэфа задаволіць, а ён быццам бы гэтага і не прыкмячаў. Ірэне ўжо канчаўся год працы. Калі крамар абвясціў новы перападлік, прадаўшчыцы не прыкмячалі ў тым нічога незвычайнага. Аднак здарылася тое, аб чым ніхто і не падумаў.

— Ты ўжо можаш ісці дамоў, — кінуў шэф Ірэне, калі перападлік набліжаўся да канца. — Мы самі закончым. Ключы ад крамы аддай, ты ўжо не будзеш працаваць... Зарплату атрымаеш пазней, як „усё будзе добра!"

Так падзякавалі спадары купцы дзяўчыне за амаль гадавую добрасумленную працу.

У краме засталася працаваць адна Альжбета. Ірэне не выплацілі апошняй зарплаты. Толькі пазней пайшла па пасёлку чутка, што яна быццам бы недастачу зрабіла.

Альжбета працавала таксама (як раней Ірэна) амаль год. Як ні старалася дзяўчына, не дагадзіла шэфам. Увольнілі і яе з работы. Пасля яшчэ некалькі прадаўшчыц увольніў спадар М. Вядома, прыватнаму прадпрымальніку ўсё дазволена рабіць на сваім прадпрыемстве. Нават парушаць законы.

Нехта данёс у фінансавую ўстанову, што прадпрымальнік М. махлярствам займаецца. Ашукоўвае не толькі сваіх працаўнікоў, але і дзяржаву, бо належных налогаў не плаціць.

Прыехаў чыноўнік з раёна. Пайшоў да кожнай былой прадаўшчыцы пасасобку (да гэтых, што працуюць зараз таксама), запісаў іхнія паказанні ў пратакол, колькі і як працавалі, якую зарплату атрымоўвалі і быццам сказаў: „Drogo to ego bendzie kosztować.... Pewnie tego towaru ze sklepu nie wystarczy..."

Чыноўнік ад'ехаў. Забраў з сабою паказанні жанчын. І ўсё па-даўнейшаму засталося. Толькі ў сэрцах увольненых прадаўшчыц крыўда засталася па сённяшні дзень.

**Кастусь Млынарскі**

# Сучаснасць і мы

Ужо дзевяць гадоў мінае з таго часу, як у краіне між Бугам і Одрай памяняліся палітычныя абставіны. Гэтыя змены мелі і маюць уплыў на наша звычайнае жыццё. І хаця многае памянялася, але на жаль, не ўсё пайшло ў лепшы бок. І як не дзіўна, цяпер у Польшчы настаў цяжкі час вялікіх псіхічных выпрабаванняў. У многіх людзей сярэдняга ўзросту асталося вельмі мала радасці, весялосці, надзеі на лепшую будучыню сваю і сваіх дзяцей. Кожны глядзіць толькі, каб утрымацца на паверхні, і думае як пражыць хаця тых некалькі дзён да канца месяца. Справа не ў тым, што становішча цяжкое, але ў тым, што яно ў многіх выпадках амаль безвыхаднае. Няма дзе і за што жыць. Такое бывае з тысячамі маладых сем'яў.

І як бы не глядзець на гэтую справу, пытаючы, чыя гэта віна і ці сапраўды таго мы хацелі, найбольшы цяжар упаў на плечы зусім да гэтага непадрыхтаваных маладых і вельмі маладых людзей. Выпускнікі прафесійных школ, тэхнікумаў, ліцэяў і вышэйшых навучальных устаноў не знаходзяць свайго месца ў жыцці і ў грамадстве. Яны непатрэбныя! Ці сапраўды?

Такога аблічча капіталізму ніхто з нас і не думаў аглядаць.

Памятаецца мне як раней гаварылася, што многія не цэняць работу. „Каб на гэтых п'яніцаў і лодараў урэшце якісьці біч знайшоўся", — казалі. Біч знайшоўся, але ўдарыў ён зусім не па тых плячах, што ўсе спадзяваліся. П'яніцам замена сацыялізму капіталізмам у нічым не пашкодзіла. Жывуць яны і паўсюдна путаюцца паранейшаму. У Беластоку, Гайнаўцы, а таксама ў кожнай вёсцы, сустрэць іх можна на вуліцы, у аўтобусе, на любым аўтобусным прыпынку. На гарэлку ім грошай хапае, а як жывуць іх сем'і, лепш не пытаць. Цяжка жывецца дзецям і жонкам такіх людзей, але таксама не лягчэй маткам, якія па розных прычынах адны выхоўваюць дзяцей. Не намнога лягчэйшы і лёс маладых сем'яў з малымі дзецьмі, калі гэтыя маладыя людзі беспрацоўныя.

Маладыя людзі часта не чакаюць вялікіх грошай, хочуць толькі рабіць штосьці карыснае. Хочуць нейкай стабілізацыі ў жыцці, месца ў грамадстве. Гэта няпраўда, што ўсе маладыя людзі — вялікія эгаісты і гультаі.

Часта гэтыя маладыя дзяўчаты і хлопцы намнога лепшыя чымсьці старэйшыя пакаленні, а гэта таму, што не сапсавала, не скрывіла іх яшчэ жыццё. Многія з іх гэта ідэалісты, якія свята вераць у вартасць чалавека і яго годнасць. А пошукі работы, безвыхаднае становішча забіваюць у іх усё што светлае, вартаснае. Ужо ў пачатку жыцця трацяць тую энергію, якая павінна служыць ім доўгія гады. Маю надзею, што нашы ўлады ў хуткім часе знойдуць выхад з гэтай цяжкай сітуацыі, дадуць магчымасць развіцця маладым і трохі старэйшым людзям. Час бяжыць!

**Іаланта Грыгарук**

# Белае возера

Калісь улады казалі, што наша дзяржава — адна з перадавых па вытворчасці малочных прадуктаў. Гаварылася тады, што ў нас „płynie rzeka pełna mleka". І сапраўды, хаця малако ў скупцы было таннае, дык і малочныя прадукты не былі дарагія. Цяпер, калі мы пачалі сілаю ўпіхацца ў Еўрапейскую Унію, а заходнія дзяржавы прызналі наша малако няякасным і перасталі браць ад нас малочныя прадукты, то з белае рэчкі паўстала вялікае возера, адкуль няма ніякага адплыву. У такой сітуацыі малочныя заводы прынялі добрую тактыку: пачалі па-новаму даследаваць малако і ў выніку амаль знік першы клас, а застаўся пераважна другі і трэці. Аднак у „злеўнях" яно зліваецца ў адзін танк і калі трапіць у малачарню, зноў пераўтвараецца ў першакласнае, бо нам таннейшых прадуктаў другога і трэцяга класаў не прадаюць.

Мне 14 лютага давялося гутарыць з гаспадарамі з Міхалова, Кляшчэляў і Лубіна-Касцельнага, якія маюць добрыя аборы, даяркі і халадзільныя бакі, але ўсё роўна малако ў іх другога і трэцяга класаў.

Нашы ўлады кажуць, што калі будзем уваходзіць ва Унію, то трэба будзе ад многага адрачыся, каб прыстасавацца да заходніх стандартаў. Селянін, які будаваў абору, цяпер павінен адрачыся ад малочных кароў, а які пабудаваў свінятнік, павінен спыніць свінагадоўлю і г.д.

Цяпер нашым уладам заходнія дзяржавы дыктуюць што рабіць, а тыя ўсё скрупулёзна выпаўняюць, нягледзячы на становішча сялян і рабочых. Пераконваюць нас, што ўсё знішчыла камуна і самі не могуць нават адрамантаваць дарог, якія пры камуне пабудавалі. Нам, сялянам, было і ёсць цяжка, а будзе яшчэ цяжэй. За рабочымі і сялянамі няма каму заступіцца.

**Мікалай Лук'янюк**

# Прыгадаеш — зусім другі свет

**— Што тут вам расказаць? — з пытання пачынае свой расказ пра мінулае 80-гадовая жыхарка Орлі Зінаіда НЯДЗЕЛЬСКАЯ. — Цяпер у мяне ногі хворыя і я з хаты не выходжу. Калі ляжу вечарам, то мне ўсё прыпамінаецца, усё перад вачыма стаіць. Цяпер, калі прыгадаеш былое, зусім другі свет здаецца.**



*Зінаіда і Сяргей Нядзельскія.*

Калісь людзі басанож хадзілі і з адной міскі елі. Лыжкі драўляныя былі; пасля сталі іх адліваць з алюмінію і дарабляць драўляныя тронкі. Пры стале сядала ўся сям'я, а на ім ставілі адну міску з бульбай, другую — з капустай.

Вясной людзі садзілі рэпу, рэдзьку, якіх самі елі. Цяпер даюць іх толькі жывёле. Рэпу абіралі такім вяночкам, а лупіны сушылі. Потым дадавалі іх да варанай капусты, часам кідалі яшчэ сушаных грыбоў. Гэта была свайго роду акраса, замест мяса. Сеялі лебяду на боршч, і крапіву таксама, а потым сушылі. Гаварылі тады, што добрая страва атрымаецца. Тадышняе жыццё было не такое, як цяпер. Хіба людзі больш здаровыя былі, бо ніхто да лекара не хадзіў. Жыў сабе чалавек, пакуль не памёр. Праўда, многа тады памірала дзяцей, але сем'і былі вялікія. Цяжка было жанчынам, якія многа разоў радзілі. Сёння маладыя маюць адно дзіця або двое і больш не хочуць.

Спалі на сенніках, без прасціны. Пярыны ніхто нават не бачыў, бо гусей па вёсках не садзілі. Гадаваць гусей нашы людзі навучыліся ад яўрэяў.

Калісь крупы ў ступе таўклі. Сыпалі ў яе ячмень і білі зерне таўкачом, аж куцця атрымалася, такі панцак. Пасля яго апалалі, значыць ачышчвалі крупы ад мякіны і вазілі прадаваць. Дома з ячных круп варылі куццю на Каляды або на хаўтуры па нябожчыку. Да куцці дадавалі бобу.

Пазней людзі сталі памаленьку разжывацца. У хаце тады было страшна! Калі прыгадаеш усё былое, то здаецца, што гэта сон нейкі. Калі гаспадару трэба было намяшаць сечкі, то ў хату ўносілі драўляны цэбрык і ў ім мяшалі сечку з бульбай або мукою. Потым праз вушка цэбрыка закладалі палку і неслі гэта каровам. Будавалі хаты такім чынам, што ў адным памяшканні была і кухня, і пакой. Печ збівалі з гліны, потым ставілі ўжо з цэглы, тынкавалі глінай і бялілі. Пазней сталі будаваць кафляныя печы. Замест падлогі былі гліняныя такі. З часам падлогу з дошак рабілі ў каморы, а пасля ва ўсёй хаце. Драўляныя падлогі мылі раз у тыдзень і засцілалі хадзікамі або плахтай. Дываноў тады на вёсцы не ведалі. Першыя дываны былі саматканыя, з кавалкаў розных тканін, упрыгожаныя кручковай вязкай.

Калісь, калі закалолі вепрука, ніхто не рабіў вырабаў, толькі мяса рэзалі на кавалкі, салілі і захоўвалі ў пограбе, студні, каморы або на гарышчы.

Асвятлялі памяшканні пры дапамозе газавых лямпаў. Газа была дарагая, запалкі таксама. Дзялілі запалку на чатыры часткі або пазычалі агонь у суседзяў (жар насілі ў гаршку). Самаробныя газоўкі рабілі з бутэлькі або банкі. У каго былі грошы, той купляў невялічкую лямпу без шкла. Пасля з'явіліся лямпы са шклом. Бывала так, што пры адной лямпе дванаццаць пакудзельнічы прала. Збіраліся ў адной хаце ў зімовы вечар жанчыны і дзяўчаты з калаўроткамі, пралі кудзелю, спявалі, расказвалі, жартавалі. Сёння пры такой лямпе ніхто нічога не бачыў бы.

Цяпер у крамах тканінаў розных многа. А калісь у кожнай хаце былі кросны і трэба было жанчыне ўсё самой выткаць. Калі жанчына не ўмела саткаць палатна на сарочку, тады бяда была.

Так... Калісь людзі галадалі. Калі садзілі бульбу на полі, дык разрэзвалі яе на некалькі частак, каб у адной быў толькі адзін парастак. Цяпер ад сялян не хочуць купляць бульбы, бо няма збыту. Відаць, людзі маюць што есці, не галадаюць. Вось як свет адмяніўся.

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Наша пошта

**Шаноўная рэдакцыя тыднёвіка „Ніва"!**

Паведамляю, што любую „Ніву" з 2 па 7 нумар я атрымаў, за што вельмі Вам удзячны. Такім чынам, атрымліваецца, што я п'яўкай прысмактаўся да Вашага тыднёвіка і як быццам паразітую за яго кошт. А гэта, вядома ж, ставіць мяне ў даволі няёмкае становішча і вельмі непакоіць. Паведаміце, калі ласка, мне, ці магу я афіцыйна аформіць падпіску на Ваш тыднёвік.

З цікавасцю і задавальненнем прачытаў разнастайныя па змесце матэрыялы, змешчаныя ў атрыманых экземплярах (нумарах), а потым перадаў іх у Гудзевіцкі літаратурна-краязнаўчы музей, які ўзначальвае Волат Беларускага Духу спадар Алесь Белакоз.

Каб разгадаць прычыны катастрофы (катаклізму) Беларусі, я, здаецца, адшукаў яе „чорную скрыню" і цяпер спрабую яе расшыфраваць у розных жанрах сваіх літаратурных твораў.

Ва ўдзячнасць за ўвагу да мяне, вынöшу іх на Ваш высокі прафесійны суд.

Калі каторыя з гэтых твораў заслужаць Вашу станоўчую ацэнку, то можаце публікаваць іх у Вашым паважаным тыднёвіку.

З глыбокай павагай да ўсіх Вас

**Алесь Ляскоўскі,**
**настаўнік-пенсіянер,**
**в. Сугакі, Ваўкавыскага р-на**

**Ад рэдакцыі:** Грамадзяне Беларусі, на жаль, не маюць магчымасці падпісацца ў сябе на „Ніву". Мы высылаем вам „Ніву" за кошт ганарараў ад вашых публікацый у тыднёвіку. Пішыце нам часцей і тады „Ніву" будзеце атрымоўваць пастаянна. Дасланыя творы апублікуем.

# „Наша ніва" і ўсходняя Беласточчына

**Частка 11**

У пятым нумары „Нашай нівы" за 1908 год у рубрыцы „З Беларусі і Літвы" была змешчана вельмі цікавая вестка аб нашым Гарадку. Была яна падпісана так: „Янко, а бацьку звалі Базыль". Няма сумненняў, што гэта псеўданім. І гэта зразумела, калі ўзяць пад увагу моцна палітычны характар публікацыі. З абшырнай інфармацыі даведваемся, што дзеячы рэакцыйнай працарскай арганізацыі Саюз рускага народа са Старасельцаў пачалі наведваць Гарадок з мэтай заснаваць у мястэчку Саюз рускага народа. Пасланцы са Старасельцаў вельмі многа наабяцалі жыхарам Гарадка: „Каб лягчэй прыцягнуць у саюз свой цёмных людзей, саюзнікі ўгаварывалі ім, што як пристануць да саюзу, то ім лепей жыць будзе, дастануць зямлі, будуць мець права наглядаць за паліцыяй, каб шчыра служыла, ды адкрыюць краму, дзе танней усё купляць будуць, як у жыдоў". З далейшых інфармацый даведваемся, што ў Гарадку ў Саюз рускага народа запісалася пяцьдзесят чалавек. Аднак вынікі гэтай акцыі аказаліся досыць сумнымі. У заканчэнні публікацыі аўтар паведамляе наступнае:

„Перш-наперш некаторыя саюзнікі, панапіваўшыся, пайшлі шукаць у мястэчку патайных шынкоў. Шынкоў не знайшлі, бо іх тутака няма, але гвалту нарабілі на цэлае мястэчка. І цяпер кожную нядзелю маладыя хлопцы-саюзнікі ходзяць па мястэчку цэлымі камандамі ды б'юць вокны ў тых хрысціян, што не прылучаюцца да саюзу. Увечар, дык проста боязна выйсці з хаты. Выходзіць, што заместа зямлі завялося толькі п'янства і непарадкі. Пара мужыком нашым падумаць аб тым, як вырваць сябе і братоў з цемнаты і апекі фальшывых «дабрадзеяў» сваіх".

У гэтым жа нумары „Нашай нівы" ізноў адазваўся Халімон з-пад Пушчы — верны летапісец Кленікаў. Гэтым разам яго абшырная публікацыя датычыла двух здарэнняў, якія мелі месца ў гэтай вёсцы. Як ужо нам вядома, у некалькіх папярэдніх інфармацыях Халімон з-пад Пушчы гаварыў аб тым, што кленіцкія сяляне праяўлялі абыякавасць да справы бібліятэкі ў іх мясцовасці. На гэты раз карэспандэнт беларускага тыднёвіка напісаў, што кленіцкія сяляне памянялі свае адносіны да бібліятэкі, падтрымалі яе і забавязаліся плаціць на яе па дзесяць капеек да кожнага Вялікадня, або за карыстанне кніжкамі плаціць па дзве-тры капейкі. „Добра і тое, — напісаў аўтар, — што мужыкі, улажыўшы ў бібліятэку свае ўласныя грошы, будуць памятаць, што бібліятэка іхняя ўласная, будуць самі клапаціцца аб ёй і падтрымліваць яе. Бібліятэка толькі тады і можа развівацца, толькі тады не прападзе, калі сам народ аб ёй дбае: гэтак бывае і з усякімі супольнымі, усенароднымі справамі. Здаецца, кленіцкія мужыкі ўжо пазналі гэтую святую праўду". У другой частцы сваёй публікацыі Халімон з-пад Пушчы паведамляў аб тым, што ў Кленіках удалося раскрыць і злавіць шайку з пяці зладзеяў, якія абкрадалі аколіцу.

„Усе пяць — тутэйшыя мужыкі: Пётр Парфенюк, Ефімій Тімафеюк, Марцін Трафімюк, Піліп Іванюк і Мацей Марчук. Гэты Марчук — той самы п'яніга, каторы радзіў мужыкам заместа даваць грошы на бібліятэку, купіць лепш псалтыр за пяць злотых. Добра яму гэтак радзіць — ён за той псалтыр мусіць нічога не аддаў бы, а хіба сцягнуў бы гдзе..."

З далейшых фрагментаў артыкула даведваемся, што ў Кленікі прыехаў з глыбіні Расіі гарбар-спецыяліст па вырабе авечых скураў. Калі мясцовыя сяляне даставілі яму 440 скураў, згаданая шайка ўсе гэтыя скуры ўкрала. Рускі гарбар пайшоў на хітрасць і даведаўшыся, што важаком зладзеяў з'яўляецца Парфянюк, паабяцаў зладзеям добрую выпіўку, калі тыя вернуць скуры. Зладзеі згадзіліся на запрапанаваную здзелку. Уся падзея скончылася наступным чынам:

„Уночы, калі зладзеі ўсе разам прынеслі аўчыны, што пакралі, — уся вёска паднялася на ногі, заклікалі урадніка і арыштавалі ўсю кампанію. Пры гэтым зладзеяў моцна пабілі (гэта ўжо не добра, бо закон іх і так пакарае) і завялі ў валаснoе праўленне.

Мужыкі так раззлавалі, што на сходзе ўсе як адзін пастанавілі прыгаворам выселіць зладзеяў у Сібір. Асігнавалі па 35 рублёў на высылку кожнага. Земскі начальнік зацвердзіў прыгавор і паслаў зладзеяў у Беласток, каб адтуль адправілі іх у Вяцкую губерню. Толькі галоўны атаман уцёк яшчэ ў тую самую ноч як іх арыштавалі, ды ўцякаючы страляў нават чатыры разы з рэвальвера, толькі нікога не папаў. Паліцыя шукае яго".

Падзея гэта яшчэ раз пацвярджае думку аб тым, што гісторыя Кленік — бурлівая і каларытная.

**Алесь Барскі**

# Гайнаўская бібліятэка перад юбілеем

У 1999 годзе Публічная бібліятэка ў Гайнаўцы будзе святкаваць 50-годдзе свайго існавання. Сорак пяць гадоў таму налічвала яна 4020 кніжак і 670 чытачоў. У 1991 годзе ў бібліятэку купілі камп'ютэры. Пяць гадоў таму Гайнаўская гарадская бібліятэка мела 71-тысячны кнігазбор. Бібліятэкарша Ала Грыц заснавала аддзяленне спецыяльных збораў, г.зв. рэгіянальяў. Пачала камплектаваць кніжныя выданні, газеты, часопісы ды паасобныя артыкулы пра гісторыю горада Гайнаўкі, усяе Гайнаўшчыны ды Белавежскай пушчы. Цяпер у яе багаты збор выдавецкіх рарытэтаў, г.зв. „белых крукаў", даўніх карт, здымкаў і рысункаў. Ёсць таксама артыкулы з „Нівы". У зборы-архіве А. Грыц знойдзем публікаваныя матэрыялы, між іншым, пра славутых жыхароў Гайнаўкі, пра гісторыю гайнаўскай, раней вельмі актыўнай тэатральнай групы, пра цікавую гісторыю тамашняй аптэкі і г.д.

Найбольш заслужанымі людзьмі для бібліятэкі з'яўляюцца перш-наперш Веслаў Стэмпнеўскі (першапачынальнік бібліятэчнай справы), Данута Сабалеўская, Тадэвуш Штукевіч, Вольга Адзіевіч і Яніна Якубовіч.

Зараз гарадская публічная бібліятэка ў Гайнаўцы налічвае больш 74100 кніжак і 5730 пастаянных чытачоў. Толькі ў мінулым годзе ў бібліятэку купілі 1845 кніжак. У чытальні для дарослых арганізоўваюць фотавыстаўкі ды мастацкія выстаўкі, час ад часу адбываюцца аўтарскія сустрэчы. Новым дырэктарам ГПБ з'яўляецца Галіна Вайсковіч. У памяшканні бібліятэкі знаходзіцца рэдакцыя „Гайнаўскай газеты".

**(гай)**

# Парнасік

### Быў я ў „Марко”

Быў я ў Беластоку,
Не меў што рабіць,
Паехаў у „Марко”
Сабе штосьць купіць.
Калі там заехаў,
Галаву звярнула
Ад мноства тавараў
І абслугі мілай.
А калі пачаў я
Да цэнаў прыглядацца,
Тады пачало ў мяне
Ў чэрапе мяшацца.
Тут не трэба многа,
Каб рэкламу даваці.
Хочаш таней купіці,
Трэба ў „Марко” быці.

**Мікалай Лук'янюк**

### Падарункі

Калі б я была
Чарадзейкай,
Падарыла б табе
Залаты палац.
Калі б была пявунняй,
Заспявала б табе
Песню такую,
Што ў сэрцы застанецца.
Калі б была лекарам,
Падарыла б здароўе
І сілу на ўсё жыццё.
Калі б была пагодай,
Меў бы ты сонца навек.
...А я звычайная...
Дзяўчына.
І толькі вернасць
Табе падару.
Толькі...

**Аўрора**

Адгалоска

### Запрашэнне спадару Куптэлю

Запрашаю спадара Міхася Куптэля
у наш куток,
Які называецца „Парнасік” —
хай прыходзіць браток!
Будзе пісаць геніяльныя вершы —
Тады будзе маім сябрам першым.
Белыя плямы будзе запаўняць
І чытачам „Нівы” натхненне даваць.
Крытыкаваць яго ніколі не буду —
Ні ў гарачыню, ні ў прастуду.
Буду хваліць, як паэта, ажно да неба,
Бо паэзія — як і проза — кусок хлеба.
Вядома, „хлеб” умоўны — сімвал духоўнасці,
А трэба нам жыць у братэрстве і годнасці.
Мы людзі простыя, не адукаваныя,
І штодзень цяжка напрацаваныя.
Ад нас часта і пот смярдзіць,
Аж панічу-гультаю неабходна нос закрыць.
Кожны ў „Парнасе” піша
<u>па сваёй сіле</u> і як можа —
Дык дапамажы кожнаму з нас, Божа!
Калісьці цудоўна пісаў Дзядзька Квас
І гэта быў рамантычны, цікавы „Парнас”,
Але яго не дацаніла наша „вярхушка” —
Не выпусцілі кнігу з паэзіяй — свежай вады кружкай.
Такая кніжка не пакрывалася б пылам,
А пайшла б пад стрэхі людзей вірам.
Бо кніжкі пачэсных
паэтаў-філосафаў „адпачываюць”
І толькі яны самі сваю
„высокую цану” *знаюць*.
Чакаю на адказ спадара Куптэля,
толькі <u>ў вершаванай форме</u>.
Думаю, што ён будзе
геніяльны і ўзорны.
Хай не будзе гэта „псеўдапаэзія” і „плагіяцтва”,
А „сапраўдная паэзія” і „выдатнае мастацтва”.

**Мікалай Панфілюк**

# Двухлітарная крыжаванка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. Ідс, алімпійскі чэмпіён з Нагана ў бегу на каньках на 1000 м, 3. сталіца Іспаніі да 1561 г., 5. японскі порт на Японскім моры, 7. граніца паміж палеткамі, 9. грашовая адзінка ў Вялікабрытаніі, 10. двухмачтавае парусное судна, 11. недахоп, 12. дзяржава на ўсходзе Міжземнага мора, 14. сталіца Філіпін, 16. прылягае да шыі, 17. у старажытным Рыме браў пад сваю апеку бедных.

**Вертыкальна:** 1. „З агню ды ў ...”, 2. вызначае інертныя і гравітацыйныя ўласцівасці матэрыі, 3. бацька, 4. яшчэ не прафесар, 6. Дэбара, алімпійская чэмпіёнка з Нагана ў слаламе-гіганце, 8. жыве з міласціны, 9. Кадзуэсі, алімпійскі чэмпіён з Нагана па скачках з трампліна К-120, 11. лёгкі вызны вазок, 13. месца сходкі злачынцаў, 14. Герман, алімпійскі чэмпіён з Нагана ў супер-гіганце і слаламе-гіганце, 15. мядзведжая ступня. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 4 нумара**

**Гарызантальна:** аншлаг, „Расёмон”, тырада, талакно, Нагана, нектар, Оксфард, анклаў, дрожджы, ахінса.

**Вертыкальна:** прытон, асілак, смоква, „Антон”, шэраг, Алдан, адстой, аранда, Андрыч, еўнух, Тулон, Роўда.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

<u>Думкі дзеда Антона</u>

# Гарэлка і Аксана

Ой, дарагія вы мае, ці вы чулі, што гарэлка зноў падаражэла? Хаця грошай у мяне не так ужо і мала, але ўсётакі без патрэбы я іх траціць не думаю. Гарэлкі цяпер у кожнай краме колькі хочаш, але цэны на яе страшэнныя. А я ад кілішка не адказваюся і таму паэканоміць на гэтым артыкуле збіраюся.

Кажуць, не адзін пасля ўсходніх базарных спіртных спецыялаў ногі выцягнуў. Але мяне гэта не палохае, бо на могілках сямейка ў мяне большая, чым на гэтым свеце. Там жа, на ўзгорку за вёскай і дзве жонкі, і дзетак таксама двое ад другой нябожчыцы.

Я выпіць люблю. Мае жонкі не раз за гэта сварку ўсчыналі, а цяпер нават і бабскае лаянкі мне не хапае. Засталіся толькі ўспаміны.

Гарэлка гэта такая рэч, што хаця ніхто яе не хваліць, але і абысціся без яе няма як. Без гарэлкі ні хрысцінаў, ні вяселля, ні хаўтураў няма. Бываюць нават і такія хаўтуры, на якіх пасля чарговага кілішка і за здароўе нябожчыка выпіваць збіраюцца.

А на адным вяселлі, малады пасля лішняга кілішка вельмі знерваваўся, устаў, адвярнуўся задам да стала і выскачыў цераз адчыненае акно. За ім хуценька выбраліся і ўсе ягоныя госці. Потым Каця не раз Уладзіка дакарала: „А можа праз акно хочаш выскачыць, калі нешта табе не падабаецца”. Уладзік тады апускаў галаву і нічога не гаварыў. А на іншым вяселлі быў яшчэ і такі выпадак, што маладога з вяселля міліцыя на тры месяцы ў турму пасадзіла. Выпіў, а потым як расхадзіўся, то ўсе госці стрымгалоў уцякалі.

Хаця гарэлка не заўсёды неабходная, але і без яе таксама цяжка, трэба толькі памятаць, каб не перабраць меры.

Прыязджала ў нашу вёску ўкраінка, нічога сабе кабетка. Грудзі поўныя, буйныя, а ззаду такая кругленькая выпучына, што аж рука свярбіць, каб да яе дакрануцца. І ножкі нехудыя, а твар як румяне яблычка. Зубы блішчалі „па іхняму” ўсімі колерамі серабра і золата. А смяяцца гэтая Аксана вельмі любіла. Бывала, калі нехта з нас, мужчын, і падшчыпне, то па твары табе не ляпне, а толькі смяецца. Прывозіла яна спірт і гарэлку, а мы ў яе куплялі. Але, вось ужо два месяцы мінае, як Аксана не паказваецца. І таннай гарэлкі шкада, і па Аксане сэрца шчыміць. Я думаў, што ужо не для мяне гэтыя цацкі (як ні глядзі, дзвюх жонак пахаваў), але ўсё-такі штосьці яшчэ і ў старога варушыцца. Аксане дзесьці пад сорак пяць, а мне, як ні глядзі, намнога больш. Аднак, калі б добра каля яе мне закрунуцца, то хто ведае?..

А тут яе няма і няма. Ужо трэцюю бутэльку за яе здароўе п'ю. Ужо нямецкай, польскай і яўрэйскай пакаштаваў, але, ой, гэта не тое.

Ой ты, стары чорт, гавару сам сабе, можа зноў табе пад пярынай аднаму холадна? Ой, хіба так! — сам сабе адказваю.

**Выслухала і запісала**
**Іаланта Грыгарук**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Даражэнькі Астроне! Прысніўся мне вельмі добры сон. Было мне так сонечна, так прыгожа. А дзеялася ўсё недзе на поўдні: можа ў Югаславіі, можа ў Іспаніі.

Бачу знаёмых: мужа і жонку. Я ведала больш менавіта яго. Гэта вельмі знатны ў нас чалавек, ад яго многае залежыць, дык я нават збіралася папрасіць, каб дапамог мне ў адной справе.

Я гляджу на гэтага знаёмага (яна стаіць недзе збоку), а ён такі статны, такі прыгожы. Я кажу яму: „Станцуйце мне нештачкі, я ж ніколі не бачыла, як вы танцуеце!”

Чалавек пачынае танцаваць нейкі іспанскі танец. На галаве ў яго павязана чорная хустка, ды ўся яго вопратка такая, як іспанскі народны касцюм. Калі ён танцуе, то выглядае яшчэ больш прыгожа. Станцаваў адзін танец, а тады станцаваў другі — а навокал цудоўная прырода, прыгожыя расліны, горы.

Раптам бачу: на фоне гэтай прыгажосці стаіць доўгі стол, накрыты вельмі прыгожым абрусам. Ён ні то залацісты, ні то проста меніцца рознымі колерамі. Ніяк не магу гэтага зразумець, але адно ведаю напэўна: гэтыя знаёмыя маюць святкаваць гадавіну свайго шлюбу.

Ці ты, Астроне, таксама мяркуеш, што гэта добры сон?

**Анэта**

Анэта! Твой сон быў сапраўды цудоўны. Навокал прыгажосць: і прыроды, і людзей, і мастацтва, танец. Усё сонечна, аж іскрыцца, нават абрус. І ўсё гэта абазначала б для цябе перамену на лепшае (асабліва тое, што ўсё адбывалася заграніцай), калі б... не той танец. Танец абазначае нейкія дарэмныя старанні, дарэмную працу. У нейкай добрай кампаніі ты будзеш (той прамяністы абрус), але з тваіх просьбаў дапамогі можа нічога не выйсці.

**Астрон**

# У Гайнаўцы і Бельску

### Выстаўка ў ГДК

15 сакавіка г.г. у Гайнаўскім доме культуры па вул. Беластоцкай 2 адкрыюць выстаўку жывапісу Паўла Верамюка. Пачатак мерапрыемства а гадз. 17.00.

### Цыганскія танцы ў БДК

14 сакавіка г.г. у Бельскім доме культуры па вул. 3 Мая 2 спяваць і танцаваць будзе цыганскі ансамбль „Рома”. Канцэрты будуць пачынацца а гадз. 17.30 і 19.30. **(гай)**

**Ніва**

„Niwa”, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435 022.

Druk: „ORTHDRUK”, ul. Składowa 9, Białystok.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1998 r. upływa 5 czerwca 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał 1998 r. wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2 zł, a kwartalnie — 26 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка



*Малюнак Алега* КАРПОВІЧА

**Фрашкі пра нашых**

## Мроі

Начапілі медаль аднаму
грамадзяніну
За тое, што святое Васілю, паганіў.
Чакае Васіль справядлівасць веку,
Што й ахвяру героя назвуць
**чалавекам.**

## Юркам-Зменнікам

Кажуць, найбольш чэрцяў
у спакойнай тоні.
А ў печы старое
стары д'ябал паліць.
... Хай старога чорта
малады дагоніць,
Калі рвецца ўперад
і былое валіць!

**Вандал Арлянскі**

## Урач — чараўніца

Загаворваць зубы ўмею
Каму хочаш добра сам.
Тут жа быццам анямееў я,
На вачах аж — слёз раса!

Хоць сам з вёскі, тым не меней —
Ў рот мне палец не кладзі.
Тут я, быццам ад здзіўлення,
Рот адкрыў, як маладзік!

Як убачыў яе вочы
Гэтак блізка ад маіх.
Вось бы шчасця ўдзень і ўночы
Мне было б глядзецца ў іх!

Як квітнеючая вішня,
Ўся у белым
Ля мяне
Так яна шчыруе ўвішна —
Зараз часам бачу ў сне.

Маю зуб я на яе ўжо,
Што вось сэрца стала ныць
І мне ў рот не лезе ежа:
Ну й жанчынка — ўрач зубны!

Закахаўся я няйначай. —
Зуб балеў было лягчэй.
Я жую нервова жвачкі —
Пломба выпадзе хутчэй...

**Станіслаў Валодзька**

## Паводзіны

— Вітай, кум!

— А вітай, вітай! Што там новага ў палітыцы?

— Бяда; ніхто тою палітыкай не хоча апошнім часам займацца, уцякаюць усе ад яе быццам ад якое хваробы...

— Пэўна ад хваробы на кішэнныя сухоты?

— Ты не смейся; у палітыкаў кішэні касмічныя, з чорнымі дзірамі. Колькі ж разоў павышалі яны свае аклады і, аказваецца, усё ім мала: маюць вялікія расходы, на высакародныя мэты быццам. Таму і разглядаюцца хто куды: калі топішся, дык і брытвы ўхопішся. Вазьмі для прыкладу нашага прэзідэнта Квасьнеўскага: то ж колькі яму Сейм з бюджэту забраў! Кажуць, каму лёс спрыяе, той гора не знае. І думае кожны пра яго, што ён такі кругленькі ды і шчасліўенькі, як пончык у масле. А ён жа бедны цяперака, як касцельная мыш...

— Украінцы гавораць: „Краще мати мишу в горщику, ніж залишитися без борщику".

— ... і мусіў, бачыш, тым гандлем мэбляй заняцца...

— Лепш мэбляй гандляваць, чымсьці гной раскідаць.

— Ты пра гной, смяешся, а тут не да смеху. Бо ж цяпер у палітыцы нарабілася, быццам у Аўгіевай канюшні. То ж ледзь Бузэк толькі на пасаду стаў, а ўжо мусіць, як Геракл, чысціць дзяржаўны апарат з дрэнных чыноўнікаў і ставіць на іх месца больш мазгавітых...

— Такі наш *дрэнаж мазгоў*...

— А якія сёння чыноўнікі? Вось пры цары былі чыноўнікі! Ды і пры камуне якія былі; Брэжнеў, каб да ста гадоў быў дажыў, яшчэ ў сто год паспяхова працаваў бы! Усіх тая дэмакратыя сапсавала, той цэлы капіталізм...

— Які Сава, такая і слава.

— І камуняякі ўжо не такія, як былі раней; яны цяперака быццам бы на палітыку касавурацца, быццам адно толькі культураю цікавяцца. Для прыкладу, наша палітычная зорка, Цімашэвіч наш, мо баіцца думкі пра вяртанне на Бузкаву пасаду, каб спіны над тым там Аўгіевым дабром не гнуць, таксама падаўся разам з ветрам і да культуры ліпне. Нашы людзі, вось, ужо атаясамліваюць яго з Фестывалем беларускай песні: не гавораць „Іду на фестываль беларускай песні", толькі „Іду на Цімашэвіча".

— А каб такая Алексіс там з'явілася?..

— Дык гаварылі б: „Іду на Алексіс"! А народу колькі нахлынула б...

— Вось цікава было б пачуць па радыё: „Вялікія паводзіны меў калектыў «Паўбасы», які на пятай Алексіс заняў чацвёртае месца".

**Падслухаў Адам Маньяк**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Дзядзька пляменніку:

— Маеш ужо трыццаць гадоў і ўсё яшчэ халасцяком ходзіш...

— Бо ўсе прадстаўленыя мною нарачоныя не падабаліся маці.

— Дык трэба было знайсці падобную на яе.

— Знайшоў!

— І што?

— Не спадабалася бацьку.

* * *

У царкве:

— Ці ты, Юрка, маеш жаданне ўзяць за жонку прысутную тут Вераніку? — пытае святар.

— Не!

— Дык чаму ж ты не сказаў пра гэта перад шлюбам?

— Бо вы, бацюшка, з'яўляецеся першаю асобай, якая мяне пра гэта пытае.

* * *

Сустрэча закаханых:

— Колечка даражэнькі! Мой бацька з энтузіязмам успрыняў вестку, што будзеш сёння ў нас на вячэры.

— Што ты скажаш!?

— Так! Калі я яму пра гэта сказала, ён выняў з дубальтоўкі патроны і замяніў іх шротам.

* * *

— Каханы Андрэйка! Мушу табе абвясціць сумную навіну: мой бацька патраціў усю сваю маёмасць...

— Бачыш! А не гаварыў я табе, што ён знойдзе спосаб на тое, каб нас разлучыць?

* * *

— Праўда, Андрэйка, што ў мяне вочы як васількі?

— Ну.

— А шчочкі гладкія, як персікі?

— Ага.

— Ах, як я люблю, калі гаворыш мне такія паэтычныя словы...

* * *

Бацька ўбягае ў пакой, дзе яго дачка цалуецца з незнаёмым яму хлопцам.

— Вы асмеліліся цалавацца з маёй дачкою! Спадзяюся, што вам вядома, што ў такой сітуацыі павінен зрабіць прыстойны мужчына...

— Ведаю дасканала; пакіньце толькі нас адных.

## Сардэчныя тайны

Мілае Сэрцайка! Пaмажы мне разабрацца ў жыцці, бо я ўжо нічога не разумею.

Мяне выхоўвалі так, каб я магла даць сабе рады ў любой сітуацыі, нават тады, калі б засталася, не давядзі Божа, адна, без мужа, а мо яшчэ нават з дзецьмі. Такім чынам, мяне вучылі ўсебакова. Я закончыла вышэйшую школу, ведаю пару замежных моў, шмат чытала і падарожнічала.

Адным словам, калі я выходзіла замуж, дык адчувала сябе моцнай, самастойнай, незалежнай. І такой сябе бачыла ў ролі жонкі. Я не баялася, што застануся без хлеба, бо добра зарабляла. Заробкі мужа былі значна ніжэйшыя. У хаце пра ўсё вырашала я, бо была ўпэўнена, што менавіта я, а не муж, зраблю ўсё найлепш. Што датычыцца свёкраў, дык я іх нават блізка не падпускала да нашых спраў. Так будзе лепш, здавалася мне. Чаго вочы не бачаць — душа не баліць. Яшчэ пачалі б чыніць нейкія ўвагі, што я свайго мужа, іх сына, да нічога ў хаце не дапускаю.

Але, з другога боку, кепска яму было?! Нават у краму ніколі не зайшоў — усе хатнія абавязкі я ўздзябурыла на сябе. І гатавала, і прыбірала, і бялізну мыла. Сёння нават сама сабе дзіўлюся: адкуль у мяне бралася столькі энергіі... Не была гэта, аднак, ахвота кіраваць, а пераканаанне, што я ўсё змагу зрабіць сама, без нічыёй дапамогі. Зраблю найлепш, бо муж на нічым не знаецца. Няхай ужо займаецца сваёй любімай працай. Ён жа быў настаўнікам. Прыйдзе дахаты, аблоўцца вучнёўскімі сшыткамі, правярае... А я яму давала ласку, каханне. Хацела дагадзіць ва ўсім.

Калісь мая сяброўка мне кажа: „Звар'яцела ты, ці што? Ты ж усенька ўзваліла на свае плечы! Думаеш, кахаць за гэта цябе будзе больш?" Я ўсміхнулася. Толькі я ведала, як ён мяне кахае. Пазбыцца такой жонкі — гэта так, як бы пазбыцца курыцы, якая зносіць залатыя яйкі.

Я не магла зразумець гэту сяброўку, якая таксама была замужняя і, як і я, не мела яшчэ дзяцей. Яна не працавала, сядзела ў хаце, а яшчэ ганяла свайго мужа за пакупкамі, загадвала яму афармляць усе-ўсе справы. Падумай, Сэрцайка, ён жа нават посуд ёй мыў, каб хаця не запэцкала сваіх ручак! Не было нічога такога, чаго б яна прасіла, а ён не зрабіў. Яна ж заўсёды была такой слабенькай дзяўчынкай, ва ўсім залежнай ад мужа. Была? Не! Кажу табе, што яна прытваралася. Ведала, што на гэтым выйграе.

Яна гэтага не падыме — цягай ты, дарагі мужычок, сумкі з крамы. Яна ж, бедная, сядзіць у хаце, грошай не зарабляе, а хацела б, як і іншыя, прыгожа апранацца, — плакала на плячы мужа. Дык на табе, даражэнькая, футра! Ніводная з тваіх сяброўак такога не мае.

То тое ёй балела, то іншае. Трэба яе ашчаджаць, думаў яе муж і хадзіў каля жонкі, быццам каля яйка. Яшчэ, не дай Божа, расхварэецца ці нават памрэ. Што я зраблю без яе...

Гэтак жыла мая сяброўка, а мяне брала злосць: хутчэй ён пры ёй ногі выцягне, чым яна! А калісь яна мне кажа: „Ты ж зусім не жывеш для сябе! Дык навошта тады жыць?.." А мне, ідыётцы, давала радасць тое, што я жыла быццам для мужа.

І думаеш, Сэрцайка, не мела яна рацыі?! Ацаніў муж маю самаахвярнасць? Дзе там! Знайшоў такую ж слабенькую, ціхую істотку ў школе, таксама настаўніцу, надта падобную на маю сяброўку, і яна сваёй хітрасцю прымусіла яго адысці ад мяне. А ведаеш, як ён мне гэта тлумачыў? Ты, кажа, моцная, здаровая і фінансава незалежная. Дасі сабе рады і без мяне! А гэту дзяўчыну я пакінуць не змагу. Яна без мяне загіне... тым больш, што і дзіця ўжо ў дарозе.

Ну, і скажы, даражэнькая, як тут жыць: ці лепш быць моцнай, адукаванай і самастойнай, ці слабенькай, беднай і пакорнай?

**Вольга**

Вольга! Але цяпер, калі муж цябе кінуў, прынамсі маеш за што жыць. Той слабенькай было б у падобным становішчы значна горш.

У кожным дзеянні, аднак, патрэбная памяркоўнасць, а ты свайму мужу рабіла ўсё і яшчэ зарабляла грошы, адно зоркі з неба не зняла. Вось ён табе і падзякаваў. Зашмат было добрага, захацелася яму слабенькай. А слабенькія бываюць хітрыя, ой, хітрыя.

**Сэрцайка**